Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

5 студзеня 2018 года №1 (1184)

12+




# З КАЛЯДАМІ!



# "Асоба года-2017": калі не хочаце працаваць, проста зрабіце хобі сваёй работай

Гаспадары сабачага прытулку ў Алешчанятах на Валожыншчыне Алена і Ігар Крэйнісы распавялі пра каханне, дзяцей і сабак.

старонкі 20-21

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.



## 12 знакамітых сабак у гісторыі

старонка 8

## Каляндар канфесій на 2018 год

старонка 17

## Свята “Ля каляднага каміна” правялі ў Залессі

**СМАРГОНЬ**

Свята “Ля каляднага каміна” адбылося пад самы Новы год у музеі-сядзібе Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессі.

Супрацоўнікі музея падрыхтавалі для дзяцей імпрэзу, дзе знайшлося месца і гульням, і казцы, і пазнавальнай экскурсіі, і вершам, і песням, і карагодам ля ёлкі з Дзедам Марозам, Снягуркай, Баба Ягой.

Для дзяцей і дарослых гучала музыка, якая дапамагла стварыць узнёслы настрой гасцям.

**Паводле zalesse.by**



Фота zalesse.by.

Баба Яга забаўляла наведнікаў у сядзібе Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессі.

### На першай Беларускай АЭС пачалі мантаж парагенератараў

**АСТРАВЕЦ**

На другім энергаблоку Беларускай АЭС спецыялісты пачалі ўстанаўліваць першы парагенератар. Усяго іх будзе чатыры.

Парагенератар вагой звыш 320 тон адносіцца да асноўнага абсталявання рэактарнай установкі. Ён патрэбны для перадачы цяпла, утворанага ў актыўнай зоне рэактара, у контур для генерацыі пары.

Пасля таго, як установяць усе чатыры генератары, пачнуць зварку галоўнага трубаправода.

**Паводле сайта Астравецкага райвыканкама.**

### У Вілейскім лясгасе прадалі больш за 1000 навагодніх дрэў

Перад навагоднімі святамі ў Вілейскім доследным лясгасе прадалі больш за 1000 святочных дрэў.

У лясгасе распавялі, што асабліва добра прадаюцца пухнатыя ёлкі, аднак летась іх прадалі больш. Навагодніх букетаў прадалі столькі ж, як у мінулым годзе.

### На дзвюх вуліцах Івянца – каранцін па шаленстве

**ВАЛОЖЫН**

Двухмесячны каранцін па шаленстве накладзены на дзве івянецкія вуліцы – Стаўбцоўскую і Міру.

Каб не дапусціць распаўсюджвання захворвання, грамадзян абавязваюць трымаць сабак на ланцугу або ў вальеры. Парушальнікаў чакае штраф, паведамілі ў Валожынскім райвыканкаме.

### У Вілейцы правялі традыцыйны маскарад “Для тых, каму за...”

**ВІЛЕЙКА**

29 снежня ў вілейскім Доме культуры правялі баль-маскарад. Мерапрыемству ўжо 10 год.

Сюды прыходзяць тыя, каму за 50. Самаму старэйшаму наведніку – 82 гады. Раней на свята запрашалі толькі ўдзельнікаў клуба “Ветэран”, якім кіруе **Жанна Барткевіч**. Цяпер сюды прыходзяць іншыя жыхары Вілейшчыны, наведнікі Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва і раённы Савет ветэранаў.

### Прэзентавалі кнігу Ігара Пракаповіча пра Мядзельшчыну

**МЯДЗЕЛ**

У цэнтральнай раённай бібліятэцы адбылася прэзентацыя кнігі Ігара Пракаповіча “Край беларускага сэрца – Мядзельшчына”.

У выданні больш за 650 старонак разнастайных звестак пра Нарачанскі край і яго людзей.

Ігар Міхайлавіч расказаў аб тым, як з’явілася ідэя кнігі, як доўга ішла праца над выданнем, з якімі цікавымі людзьмі звёў яго лёс у час напісання кнігі.

**Аддзел інфармацыі.**

# Камуналка – 100%, павышэнне базавай і пенсійнага ўзросту:

## што нас чакае ў 2018-м

**Урад падрыхтаваў шматлікія нававуведзенні ў заканадаўстве, якія ўжо пачалі дзейнічаць. Якіх змен чакаць ад новага года?**



Фота sorokiya.ru.

Ад 1 студзеня субсідыі застануцца толькі на цеплавую энергію. За астатнія паслугі будзем плаціць 100%.

### На паўтара рубля ўзрасце базавая велічыня

Ад 1 студзеня паводле пастановы Савета Міністраў ад 22 снежня №997 базавая велічыня склала 24,5 рубля. Да гэтага яна была 23 рублі.

Ад базавай велічыні залежаць памеры штрафаў, розных грашовых дапамог, стыпендый. Разам з базавай павялічыліся дзяржпошліны, дарожны падатак, падатак для рамеснікаў і ўладальнікаў аграсядзібаў.

Максімальны памер дапамогі па беспрацоўі складзе дзве базавыя велічыні, значыць, 49 рублёў. Падача заявы на скасаванне шлюбу будзе каштаваць 98 рублёў. Калі разыходзяцца другі раз, то сума ўзрастае да 196. А выдача заявы аб уступленні ў шлюб каштуе 24 з паловай рублі.

Апошні раз базавую велічыню падымалі 1 студзеня 2017 год – з 21 рубля да 23.

### Камуналка стане 100%

Ад 1 студзеня мы пачнём плаціць за камунальныя паслугі па поўным коште. Субсідуемай застанецца толькі цеплавая энергія, гэта значыць, ацяпленне і падаграванне вады. Цяпер яны найбольш дарагія сярод усіх камунальных паслуг, хоць насельніцтва аплачвае каля 20% іх сабекошту.

Дзяржпошліна на рэгістрацыю індывідуальнага прадпрымальніка вырасла да 12,25 рубля.

### Павялічаныя штрафы, пенсійны ўзрост і тэхагляд без паўтораў

За безбілетны праезд у гарадскіх аўтобусах парушальнік павінны будзе заплаціць да 12,25 рубля, у прыгарадным – да 17,15, у міжгароднім – да 24,5 рубля.

Штраф за выкіданне смецця з транспарту складзе ад 24,5 да 49 рублёў, за курэнне ў грамадскіх месцах – 98, у дапаможных памяшканнях дамоў – 735.

Вырастуць штрафы за самавольную перапрацэкціроўку жылых памяшканняў, знаходжанне на працы нецвярозым.

Чалавеку, які набыў аўтамабіль з тэхаглядам, тэрмін якога не выйшаў, не трэба будзе яго наноў праходзіць.

З гэтага года мужчыны будуць сыходзіць на пенсію па дасягненні 61 года, жанчыны – 56 год.

### Для інтэрнэт-крам спросцяць падаткаабкладанне

Крамы, якія займаюцца рознічным гандлем праз інтэрнэт, змогуць карыстацца спрошчанай формай падаткаабкладання, вызначанай раздзелам 34 Падатковага кодэкса.

Гэтыя крамы больш не павінны прад’яўляць звесткі пра рознічны і аптовы таваразварот у Гандлёвы рэестр, могуць не выкарыстоўваць пячаткі.

### Купляць тавары ў dutyfree можна пры ўездзе ў Беларусь

Гэта правіла дзейнічае ў аэрапортах і звязанае з уступленнем у сілу Мытнага кодэкса. У dutyfree цяпер можна закупляцца не толькі пры выездзе, а і пры ўездзе ў Беларусь, Расію, Казахстан, Арменію, Кыргызстан.

Купляць можна столькі алкаголю і цыгарэт, колькі дазваляе норма бяспошліннага ввазу. Напрыклад, агульны аб’ём спіртнога не павінны перавышаць трох літраў.

### Прафесіяналы па пытаннях крыптавалюты

Ад пачатку студзеня Беларускі нацыянальны тэхналагічны ўніверсітэт пачне набор на новую спецыяльнасць – “Крыптавалюты і дэрыватывы”. На навучанне будуць прымаць па выніках гутаркі толькі тых, хто ўжо мае вышэйшую адукацыю або заканчвае ВНУ. Вучыцца трэба будзе завочна амаль два гады.

**Паводле БелТА.**

## Першымі жыхарамі рэгіёна ў новым годзе сталі пяць дзяўчынак і два хлопчыкі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Год 2017 у маладзечанскай радзільні закрыла дзяўчынка. Маладзечанка нарадзіла дачку ў 17 гадзін. А 1 студзеня ў 7:22 крык яшчэ адной дзяўчынкі абвясціў пра тое, што ў Маладзечне на адну жыхарку стала болей.

**ВІЛЕЙКА**

У Вілейцы першай у новым годзе на свет з’явілася дзяўчынка.

**ВАЛОЖЫН**

А ў жыхаркі Валожына роды пачаліся акурат у навагоднюю ноч. У радзільні так і адказалі:

– Нараджаць жанчына пачала 31 снежня, а скончыла ўжо 1 студзеня.

У першыя хвіліны новага года ў Валожыне нарадзілася дзяўчынка.

**МЯДЗЕЛ**

Першы жыхар новага года Мядзельшчыны з’явіўся на свет 3 студзеня. І гэта таксама дзяўчынка.

**СМАРГОНЬ**

А вось у Смаргоні з’яўлення першага жыхара новага года чакаюць з дня на дзень. А 31 снежня закрыла год нованароджаная дзяўчынка.

**АСТРАВЕЦ**

Дзяўчынка закрывала 2017 год і ў астравецкай радзільні. А 1 студзеня ў 2 гадзіны 30 хвілін на свет з’явіўся першы хлопчык.

**АШМЯНЫ**

У Ашмянах першы жыхар нарадзіўся 3 студзеня ў 8 гадзін 40 хвілін раніцы. Гэта быў хлопчык.

**Наталля ТУР.**



Фота www.segodnya.ua.

У фонд паступае больш за 4 мільёны рублёў меней, чым неабходна на выплаты пенсій.

# Не ўносілі страхавыя выплаты больш за два гады

## Забяспечанасць раёна ўласнымі сродкамі на пенсіі і дапамогі – менш за 60% за 10 месяцаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Шэраг арганізацый раёна мае запазычанасць па абавязковых страхавых унёсках. Аднак некаторыя кіраўнікі не навялі парадак ва ўнясенні плацяжоў і пагашэнні запазычанасці.**

Прычына пратэрмінаванай запазычанасці па плацяжах у бюджэт фонду палягае ў выплаце заробку без сплаты страхавых унёскаў.

### Найбольшыя запазычанасці па сумах

Найбольшую пратэрмінаваную запазычанасць мае Маладзечанскі завод металаканструкцый – 329 871,70 рубля, што складае 38,4% ад усёй запазычанасці раёна. Шэсць прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу маюць запазычанасць на агульную суму 200 674,30 рубля, што складае 23,3% у раёне.

Сярод іх “Купала-Агра” (90 172,96 рубля), “Палачаны” (42 755,56), “Дубрава-2013” (28 961,34), “Яхімоўшчына-Агра” (15 519,49), “Хажоваагра-2009” (12 302,44), “Бярэзіна-аграпрадукт” (10 962,51).

Акрамя таго, запазычанасць маюць наступныя арганізацыі: ПМК-187 (70 050,69), “РосБелПраём” (47 457,75), “АВС-агра” (30 912,25), “Маладзечнабудматэрыялы” (28 537,49), “Еўрапрайм” (20 059,07).

### Даўжнікі, што не плацяць месяцамі і гадамі

Найбольш неспрыяльная абстаноўка склалася ў таварыстве “РосБелПраём”, дзе за 15 месяцаў не сплачаныя ўнёскі за 46 работнікаў. У ПМК-187 за 68 работнікаў доўг да 10 месяцаў, у “Купала-Агра” – за 131 работніка да 4 месяцаў. Маладзечанскі завод металаканструкцый мае запазычанасць за 813 работнікаў да 2 месяцаў, “Дубрава-2013” – за 108 работнікаў таксама да двух месяцаў.

**Беспрэцэдэнтная сітуацыя склалася ў таварыстве “Еўра прайм”, дзе за 8 работнікаў не ўнеслі выплаты да 27 месяцаў.**

395 індывідуальных прадпрымальнікаў маюць запазычанасць па абавязковых унёсках, з іх 82 – большую, чым за 12 месяцаў.

Запазычанасць па страхавых выплатах мае 17 арганізацый, што прынялі рашэнне аб ліквідацыі, на агульную суму 186 255,69 рубля, 13 арганізацый, у адносінах якіх адкрылі конкурсную вытворчасць, – на 1 206 800,61 рубля, па 7 суб’ектах суд склаў акт аб немагчымасці спагнання на агульную суму 4 948,11 рубля.

“Упраўляючая кампанія холдынга “Забудова” (адкрытая конкурсная вытворчасць) не сплаціла страхавыя ўнёскі за 848 працаўнікоў за перыяд да 12 месяцаў на агульную суму 1 164 084,77 рубля, Маладзечанскі завод металаканструкцый (у стадыі ліквідацыі) не сплаціў за 48 работнікаў да 28 месяцаў на агульную суму 68 925,60 рубля. Як правіла, прадпрыемствы прызнаюцца банкрутамі, даўгі – безнадзейнымі і спісваюцца.

### Чаму важна плаціць страхавыя ўнёскі

Забяспечанасць раёна ўласнымі сродкамі на фінансаванне выплат пенсій і дапамог у 2016 годзе склала 57,7%, за 10 месяцаў гэтага года – 58,8%, у той час як па вобласці 91,7%. Нягледзячы на гэта, органы фонду шукаюць магчымасць забяспечыць фінансаванне пенсій і дапамог у поўным аб’ёме.

Адна з асноўных задач Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва – збор і акумуляванне абавязковых страхавых унёскаў для фінансавання пенсій і дапамог, напрыклад, дапамогі па цяжарнасці і родах, на нараджэнне дзіцяці, догляд за дзіцем да трох год, дапамогі па часовай непрацаздольнасці, беспрацоўі, на пахаванне, санаторна-курортнае лячэнне і аздараўленне.

На выплату адных пенсій у раёне расходуецца 11 607 374,07 рубля, а ў фонд паступае 6 894 508,28 рубля.

Сярод прычын, па якіх зніжаецца фінансаванне ўласнымі сродкамі на выплату пенсій і дапамог – памяншэнне колькасці працуючых, павелічэнне пенсіянераў, а таксама пенсій і дапамог. У раёне сярэдняспісачная колькасць працуючых за 2016 год роўная 46 369 чалавек, а пенсіі атрымлівае 39 473 чалавекі, ці 85,1% ад працуючых.

Сёлета колькасць працуючых зменшылася, за 9 месяцаў іх колькасць складае 44 565, а пенсіі атрымлівае 38 302 чалавекі. Атрымальнікі пенсій складаюць 85,9% ад працуючых.

У бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду за 2016 год паступіла 82 734 099,34 рубля, з іх абавязковых выплат ад прадпрымальнікаў і фізасоб, што плацяць самі за сябе – 1 521 904,33, ці 1,84% ад паступлення.

Марына СЕВЕРЫНА,
начальнік
Маладзечанскага
райаддзела
Мінаблупраўлення ФСАН.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 28.12 | 4.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9717 | **1,9790** |
| Еўра | 2,3414 | **2,3814** |
| Злоты, 10 | 5,5926 | **5,7120** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4289 | **3,4342** |
| Грыўня, 100 | 7,0493 | **7,1008** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ”** | **27.12** | **3.01** |
| Еўра | 2.3400/2.3590 | **2.3550/2.4000** |
| Долар ЗША | 1.9700/1.9870 | **1.9700/2.0100** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 27.12 | 3.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 16.95 | **16,95** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2.98 | **2,98** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,68 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 3,60 | **3,70** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Алей “Залатая семачка”, 1 л | 2,80 | **3,00** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 4,80 | **5,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,70 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 5,90 | **4,30** |
| Баклажаны, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,55 | **0,60** |
| Капуста, 1 кг | 0,39 | **0,40** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,55 | **1,90** |
| Морква, 1 кг | 0,59 | **0,60** |
| Памідоры, 1 кг | 4,45 | **3,90** |
| Перац, 1 кг | 5,95 | **6,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | **0,60** |
| Часнок, 1 кг | 4,95 | **4,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,95 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,40 | **2,50** |
| Вінаград, 1 кг | 3,95 | **4,50** |
| Гранаты, 1 кг | 3,80 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,89 | **3,00** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 2,60 | **3,60** |
| Ківі, 1 кг | 4,20 | **4,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,95 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,79 | **3,90** |
| Хурма, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,99 | **2,30** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00 | **7,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,50 | **3,50** |

# Ад 1 студзеня мяняецца графік прыёму ў Маладзечанскай ДАІ

| Пасада, імя, прозвішча | Дзень тыдня | Час прыёму |
|---|---|---|
| Начальнік ДАІ **Дзмітры Мечыслававіч Юркевіч** ці намеснік начальніка ДАІ **Уладзімір Яўгенавіч Мумрыкаў** | Панядзелак, чацвер<br>Субота (разгляданне адміністрацыйных матэрыялаў) | 08:00-10:00<br>15:00-17:00<br>09:00-13:00 |
| Старшы інспектар па адміністрацыйнай практыцы **Віталь Фёдаравіч Кацкель** ці інспектар па адміністрацыйнай практыцы **Сяргей Валер'евіч Сяськоў** | Панядзелак, чацвер<br>Субота (разгляданне адміністрацыйных матэрыялаў) | 08:00-10:00<br>15:00-17:00<br>09:00-13:00 |
| Старшы інжынер па арганізацыі дарожнага руху **Віталь Альбертавіч Лужынскі** | Аўторак<br>(выдача тэхнічных умоў, узгадненне ордэраў на правядзенне земляных) работ ) | 09:00-13:00<br>14:00-18:00 |
| Старшы дзяржаўтаінспектар ДАІ **Павел Яўгенавіч Аноп** ці дзяржаўтаінспектар ДАІ **Ігар Станіслававіч Скадорва**, ці дзяржаўтаінспектар ДАІ **Сяргей Мікалаевіч Бартош** | Аўторак<br>(узгадненне па перавозцы дзяцей і небяспечных грузаў аўтамабільным транспартам) | 09:00-13:00<br>14:00-18:00 |
| Інспектар ДПС ДАІ **Руслан Вітальевіч Барзэйка** ці інспектар ДПС ДАІ **Дзяніс Пятровіч Каралькевіч** | Серада<br>(афармленне даведак па ДТЗ)<br>Пятніца<br>(афармленне даведак па ДТЗ) | 09:00-13:00<br>14:00-17:00<br>09:00-13:00<br>14:00-17:00 |
| Перапынак на абед | Панядзелак-субота | 13:00-14:00 |

**Сяргей БАРТОШ.**

# У Будславе згарэла 85-гадовая пенсіянерка

**МЯДЗЕЛ**

Пра пажар у жылым доме ў Будславе 1 студзеня каля 13:00 паведаміла ў Мядзельскі РАНС мясцовая жыхарка.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, убачылі, што дах гарыць адкрытым полымем. Унутры дом таксама гарэў.

У пакоі выратавальнікі знайшлі цела 85-гадовай гаспадыні. Жанчына-пенсіянерка жыла адна.

Па словах **Ірыны Карапецян**, інспектара групы прапаганды і агітацыі Мядзельскага РАНС, у доме загінулай жынчыны стаяў пажарны апавяшчальнік.

Згарэла маёмасць у пакоі, абвугліліся сцены, пашкоджаны дах.

Прычыну пажару высвятляюць. Папярэдне разглядаюць неасцярожнае абыходжанне з агнём.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота з архіва Ірыны Карапецян.

Дом у Будславе пасля пажару.

● НАВІНЫ

## Мужчын падазраюць у крадзяжах з лецішчаў

**ВАЛОЖЫН, МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ**

У дачыненні да пяцярых мужчын з Мінскай вобласці распачатыя крымінальныя справы за крадзяжы з дачных дамоў. Ужо ўстаноўлена больш за 30 эпізодаў.

Падрабязнасці паведамляе ўпраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці. На працягу года жыхары Мядзельскага, Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў паведамлялі ў міліцыю пра выпадкі крадзяжу маёмасці з дачных дамоў.

У снежні былі затрыманыя пяцёра падазраваных – гэта мужчыны ва ўзросце ад 25 да 47 гадоў. Па версіі следства, яны на машыне шукалі ў дачных пасёлках дамы без гаспадароў. А ноччу выносілі мэблю, інструменты, тэхніку і прадметы інтэр'еру. – Некаторыя пацярпелыя выяўлялі свой дом пустым, – распавяла афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Следчыя ўстанавілі дачыненне фігурантаў да больш чым 30 крадзяжоў, але правяраюць інфармацыю аб іншых эпізодах. Мужчыны ўзятыя пад варту, на іх маёмасць накладзены арышт.

**Паводле сайта Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

## Пад Новы год згарэла лазня

**АСТРАВЕЦ**

31 снежня гаспадары запалілі прыватную лазню ў Варнянах.

Пасля 15:00 будынак пачаў гарэць. У выніку пажар пашкодзіў сцяну.

Прычыну высвятляюць. Не выключаюць, што пажар здарыўся з-за няправільнага выкарыстання печкі і іншага награвальнага абсталявання.

**Паводле сайта МНС.**

## У мінскім двары пад коламі смеццявоза загінула бабуля

ДТЗ адбылося 2 студзеня ў двары дома па вуліцы Каржанеўскага каля 14 гадзін.

За рулём смеццявоза быў 59-гадовы мужчына. Ён быў цвярозы, паведамілі ў Следчым камітэце.

Ад атрыманых траўмаў 92-гадовая жанчына памерла на месцы.

Па факце ДТЗ заведзеная крымінальная справа. Кіроўцу пагражае да 5 гадоў.

**Паводле "Нашай нівы".**



## Пажар у двухкватэрным доме патушыў сусед

**ВІЛЕЙКА**

1 студзеня каля шасці гадзін вечара ў РАНС Вілейкі паведамілі пра пажар у вёсцы Крывое Сяло.

Гарэла адна з кватэр у двухкватэрным жылым доме, распавёў інспектар Вілейскага РАНС **Дзмітры Кляшняк**. Пажар заўважыў сусед з другой кватэры.

Спачатку суседзі адчулі пах дыму ў сябе, усё агледзелі. Пасля сусед выйшаў на вуліцу і праз акно заўважыў вогнішча ў кватэры побач. Дзверы былі зачыненыя, гаспадар сустракаў Новы год у Вілейцы.

Тады мужчына выбіў акно, залез у кватэру і з дапамогай сваёй курткі і вады, што падносілі сваякі, патушыў пажар да прыезду выратавальнікаў.

Пажар пашкодзіў стол на кухні, мяккую мэблю, невялікі ўчастак падлогі. Папярэдняя прычына – няправільная эксплуатацыя печкі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пад Вілейкай канфіскавалі мабільную самагонную вытворчасць

**ВІЛЕЙКА**

У вёсцы Папоўцы Вілейскага раёна знойдзены высокапрадукцыйны мабільны самагонны апарат на рухомай платформе.

Інфармацыя пра тое, што жыхар вёскі Папоўцы сістэматычна вырабляе і рэалізуе самагон у сваёй вёсцы і навакольных населеных пунктах паступіла па тэлефоне ў дзяжурную частку УУС Мінскага аблвыканкама ад ананімнай крыніцы.

Рэйдавая група, што прыбыла на месца, выявіла на прысядзібным участку 53-гадовага мясцовага жыхара перасоўны самагонны апарат. Канструкцыя размяшчалася на дастаткова кампактнай двухколавай платформе з прычапной прыладай.

У распараджэнні ўладальніка быў трактар, а таксама аўтамабіль, якія маглі перамяшчаць самагонную вытворчасць практычна ў любы пункт. Самагонны мініу комплекс функцыянаваў з лета гэтага года.

Для захавання найбольшай канспірацыі гаспадар пастаянна мяняў месца самагоннай вытворчасці. Пры гэтым перавага аддавалася глухім участкам навакольных лясоў. Цяпер гаспадару комплексу пагражае адміністрацыйная адказнасць за паўторны продаж спіртаўтрымальных рэчываў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Загінуў на самаробным трактары

**АШМЯНЫ**

Каля 15 гадзін 30 снежня здарэнне адбылося каля вёскі Андажава Ашмянскага раёна.

На гравійным пакрыцці кіроўца самаробнага трактара з'ехаў у правы кювет.

Кіроўца, мясцовы вяскоўвец, загінуў на месцы.

**Паводле gaigrodno.by.**

## Падчас рэйду на Вілейшчыне ДАІ затрымала нецвярозага трактарыста

**ВІЛЕЙКА**

3 студзеня ля вёскі Мацькаўскія Пасекі міліцыянеры спынілі кіроўцу трактара.

У крыві мужчыны было 0,41 праміле алкаголю, распавялі ў вілейскай ДАІ.

Мужчына працаваў трактарыстам на адным з сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Вілейшчыны. Ён патлумачыў, што выпіваў 2 студзеня.

Кіроўцу чакае штраф ад 50 да 100 базавых велічынь і пазбаўленне правоў на тры гады. Працаваць на трактары ён не зможа.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Мінску хлопчык вынес з сейфа бацькі больш за пяць тысяч долараў

З дому прапала 5 200 долараў ЗША і больш за 30 тысяч расійскіх рублёў.

– Крадзяжы здзяйсняліся з мая 2015-га па жнівень 2017-га, – распавёў намеснік начальніка Лунінецкага райаддзела Следчага камітэта **Леанід Ванюкоў**. – На момант пачатку крадзяжоў дзіцяці было 11 гадоў. Хлопчык ведаў, дзе бацька захоўвае ключ ад сейфа, і таемна браў адтуль долары. Выкрадаў ён грошы і з бацькавай барсеткі, дзе захоўваліся расійскія рублі.

Калі бацька выявіў прапажу, звярнуўся ў праваахоўныя органы.

Высветлілася, што шляхам дамоўленасцяў і пагроз заведама малалетняга прымушаў прыносіць грошы яго старэйшы сябар, у той час навучэнец аднаго з каледжаў. Казаў, што бярэ пазыку і абяцаў вярнуць. А сам мяняў тэхніку: матацыкл, скутар і патрымныя аўтамабілі.

У перыяд папярэдняга расследавання падазраванаму споўнілася 18 гадоў. У дачыненні да яго заведзена 27 крымінальных спраў.

Большая частка шкоды кампенсавана.

Справы перададзеныя пракурору для накіравання ў суд.

Паводле Крымінальнага кодэкса, уцягванне асобай, якая дасягнула 18-гадовага ўзросту, заведама непаўналетняга ў злачынства шляхам абяцанняў, падману або іншым спосабам караецца абмежаваннем волі на тэрмін да пяці гадоў або пазбаўленнем волі на той жа тэрмін.

**Паводле media-polesye.by**




Фота Наталлі ТУР.

По словах супрацоўнікаў ДАІ, навагодняя ноч прайшла для іх у штатным рэжыме. Для інспектара з Маладзечна Сяргея Бартоша (на фота) у навагоднюю ноч першы раз за восем год быў выхадны.

# На Новы год у Вілейцы парэзалі шыны, а ў Маладзечне ўдвая больш звярталіся ў бальніцу

**Навагодняя ноч для супрацоўнікаў РАУС Вілейкі была адносна спакойнай.**

– У ноч з 31 на 1 ніякіх сур'ёзных парушэнняў не было, – распавяла "Рэгіянальнай газеце" намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка**. – Вядома, паведамлялі пра сямейныя скандалы, але да незадаволеных мужоў і пакрыўджаных жонак мы ўжо прывыклі.

Навагоднюю ноч супрацоўнікі РАУС сустрэлі на пазітыве, кажа Кацярына Аляксандраўна. А вось 2 снежня каля аднаго з вілейскіх бараў невядомыя парэзалі колы машыны мясцовага жыхара.

У навагоднюю ноч пажараў на Вілейшчыне не было, распавёў інспектар РАНС Вілейкі **Дзмітры Кляшняк**. Па яго словах, і вялікія выхадныя на каталіцкія Каляды таксама прайшлі без здарэнняў.

Лік пажарам на Вілейшчыне быў адкрыты 1 студзеня ў вёсцы Крывое Сяло. Гарэла адна з кватэр двухкватэрнага жылога дома. Пажар да прыезду выратавальнікаў змог патушыць сусед з дапамогай сваякоў, якія паднослі вёдры з вадой.

У Вілейскай выратавальнай станцыі дзяжурныя рэгулярна аглядалі вадасховішча і азёры.

> **– Ужо ўвялі забарону выхаду на лёд, аднак лёду яшчэ няма.**

Таму на вадаёмах рыбачаць з лодак. Гэта не забаронена, – расказаў карэспандэнтам "РГ" начальнік выратавальнай станцыі **Ягор Роўда.**

Для супрацоўнікаў станцыі навагодняя ноч і выхадныя прайшлі без здарэнняў.

**Маладзечна: у апошнія гады Новы год праходзіць спакойна**

Пажарныя і ДАІшнікі Маладзечна былі салідарныя адзін з адным: "Навагодняя ноч прайшла ў штатным рэжыме, ніякіх здарэнняў не было".

**Андрэй Рабец**, першы намеснік начальніка Маладзечанскага гарраймаддзела па надзвычайных сітуацыях, удакладніў, што ў навагоднюю ноч ніводнага выкліку, звязанага з петардамі, феерверкамі, гірляндамі не было.

Намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС **Уладзімір Васількоў** таксама сказаў, што ніякіх сур'ёзных здарэнняў у навагоднюю ноч не было.

– Міліцыя не дапусціла гэтага, бо ўсе службы былі напагатове. Было некалькі выклікаў на бытавыя бойкі, але, на шчасце, сур'ёзна ніхто не пацярпеў.

"Хуткая дапамога" таксама дзяжурыла ў штатным рэжыме. Аднак, як расказаў намеснік галоўнага доктара Маладзечанскай ЦРБ **Ігар Салагуб**, у прыёмны пакой бальніцы ў навагоднюю ноч звярнулася ўдвая больш людзей у параўнанні з буднымі днямі.

– У час ад 22:00 31 снежня да 6 раніцы 1 студзеня ў прыёмны пакой звярнуліся 12 чалавек. У будныя дні гэта звычайна 3-4 чалавекі.

Звярталіся людзі пераважна з траўмамі.

– Маладзечанцаў хваляваў у навагоднюю ноч высокі ціск. Былі такія звароты, але ў асноўным, гэта невялікія траўмы, удары, парэзы. Траіх з гэтых 12 давялося шпіталізаваць. У апошнія гады дзяжурыць на Новы год стала, цьфу-цьфу-цьфу, спакайней.

**Аксана ЯРАШОНАК, Наталля ТУР.**

## БелАЭС прапанавалі выкарыстоўваць для майнінгу крыптавалют

АСТРАВЕЦ

**Ці можна выкарыстоўваць энергію беларускай АЭС для майнінгу крыптавалют? Такім пытаннем задаўся мінчанін Аляксандр Хрол і напісаў пра гэта ў Адміністрацыю прэзідэнта.**

– Я памятаю, што яны не ведалі, куды падзець энергію ад АЭС, – распавядае мужчына. – Літоўцы адмовіліся, яшчэ і палітызавалі гэта. Ад Расіі і так энергія паступае. Застаецца Украіна, але ў іх сваіх электрастанцый шмат. І яшчэ палякі – і тое не факт.

У мяне была ідэя, што гэту энергію можна пусціць пад сістэмы майнінгу крыптавалют. Я ведаю, што на гэта трэба вельмі шмат энергіі. Я напісаў, што калі будзе заканадаўства, якое створыць умовы лепшыя, чым у іншых краінах, то на гэта пойдзе большая частка электраэнергіі.

Мінчанін адправіў свае ідэі ў Адміністрацыю прэзідэнта. Адтуль адказалі і перадалі ліст Акадэміі навук. У Акадэміі навук прапанову паабяцалі прыняць да ведама і прааналізаваць.

"Паднятыя вамі пытанні майнінгу і эфектыўнага выкарыстання крыптавалют, заснаваных на тэхналогіі блокчэйна, адносяцца да складаных сучасных праблем, вывучэннем якіх цяпер займаюцца як айчынныя, так і замежныя спецыялісты, – гаворыцца ў адказе з Аб'яднанага інстытута праблем інфарматыкі НАН Беларусі.

Майнінг крыптавалют патрабуе выкарыстання значных вылічальных рэсурсаў і выдаткаў электраэнергіі. У прыватнасці, прапрацоўваюцца пытанні магчымага выкарыстання ў гэтых мэтах электраэнергіі, якая будзе выпрацоўвацца беларускай АЭС".

Майнінг – працэс рэгулярнай праверкі блокаў транзакцый сістэмы блокчэйна. Майнінг патрабуе вялікай колькасці вылічальных магутнасцяў. І ў каго іх больш, той можа раней за астатніх праверыць шыфр блока і забраць сваё ўзнагароджанне крыптавалютай.

Біткойны цяпер майняць пры дапамозе "інтэгральных схем спецыяльнага прызначэння" (ASIC). Для майнінгу альткойнаў – усіх крыптавалют, акрамя біткойна – можна выкарыстоўваць саморобныя "фермы". Звычайна іх збіраюць з некалькіх відэакарт, матчынай платы і іншых элементаў.

Дэкрэт №8 "Аб развіцці лічбавай эканомікі" цалкам легалізаваў працэс майнінгу. Згодна з дакументам, фізічныя асобы маюць права займацца майнінгам, захоўваць токены, а таксама набываць і адчужаць іх. Гэтая дзейнасць не лічыцца прадпрымальніцкай.

**Паводле 42.tut.by.**

## У музычным каледжы сустрэлі Новы год ля варот

МАЛАДЗЕЧНА

Цыкл навагодніх сустрэч распачала музычная гасцёўня "Новы год ля варот" у Маладзечанскім музычным каледжы імя Агінскага.

Ініцыятарам гэтага праекта стала **Тацццяна Мурзіна**, загадчыца цыклавой камісіі "Фартэпіяна", яшчэ 9 гадоў таму.

На пачатку святочнага канцэрта гледачоў сустрэлі калядоўшчыкі, якія павіталі ўсіх прысутных каляднымі спевамі, а таксама прадэманстравалі майстэрства танца Казы. У выніку чаго вядучая адарыла калядоўшчыкаў добрымі прысмакамі.

Навагодні настрой падтрымалі музычныя калектывы каледжа: аркестр рускіх народных інструментаў пад кіраўніцтвам **Тамары Бяльковай** і хор вакалістаў пад кіраўніцтвам **Веранікі Чарапанавай**.

На вялікай сцэне паказалі сваё майстэрства не толькі навучэнцы, але і выкладчыкі, і супрацоўнікі каледжа. Рамансы, інструментальная музыка, тэатральныя пастаноўкі, вершы пра каханне – усё гэта спрыяла добраму і вясёламу настрою гледачоў і ўдзельнікаў. "Бліскаўкамі" навагодняга прадстаўлення сталі цыганскія танцы ад харавога аддзялення і прыпеўкі-пацешкі ад лясных жыхароў.

Галоўнымі гасцямі сустрэчы былі Дзед Мароз і Снягурка, якіх гледачы гучна зазывалі ў вялікую залу. Абраўшы сабе яшчэ адну Снягурку, Дзед Мароз разам з вядучай правялі віктарыну і самых актыўных адарылі салодкімі падарункамі.

**Алеся КАРОЛІК, Маладзечна.**




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* Rh.by

## ВІНШАВАНКА

**З 60-ГОДДЗЕМ!**
**Міхаілу Міхайлавічу МІХАЛЕВІЧУ з Вілейкі**



Віншуем Вас з адметным днём нараджэння!

Шэсцьдзесят для мужчыны – не ўзрост, бо Вы ў росквіце сіл, мудрыя, моцна стаіце на нагах. Няхай і надалей жыццё адорвае Вас усімі дабротамі. Сустракайце світанні, радуйцеся кожнаму пражытаму дню, жывіце да 100 год і будзьце шчаслівыя.

*Удачы Вам, здароўя і цяпла,*
*Настрой каб быў заўсёды*
*ў Вас харошы,*
*Каб не ляцелі надта хутка дні*
*І каб не пераводзіліся грошы.*

**Калектыў «Рэгіянальнай газеты».**

**ДУЧКО**
**Міхаілу Фёдаравічу з Маладзечна**

Віншуем цябе, дружа, з днём нараджэння. Зычым табе лёгкае хады на доўгія гады. А яшчэ



*Жадаем здароўя, удачы,*
*цяпла,*
*Каб беды-нягоды згарэлі*
*датла,*
*Каб жыць-не тужыць*
*Да 100 год давялося.*
*Хай збудзецца ўсё,*
*Што яшчэ не збылося!*

**Ад сяброў.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Сітраэн-Ксантыя ў выдатным стане, торг, 5000 рублёў. Т. (8-025) 9298699.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Аўто ў любым стане. Дорага. **ПА ПРЫВАБНАЙ ДЛЯ ВАС ЦАНЕ**. Т. (8-029) 7087762.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

### ІНШАЕ

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Маладзечна. Т. (8-033) 6610301, (8-029) 7704318.
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, новабудоўля 2016, 2 паверх, цэгла. Т. (8-029) 6119180, (8-033) 6626858.*
- 2-пакаёвая кватэра на 3 паверсе ў Вілейцы. Т. МТС (8-033) 3209337, (8-033) 3209338.*
- 2-узроўневы дом ў Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Кастрычніцкай, 42. Магчымы абмен на 1-пакаёвую + даплата. Т. (8-033) 6452435.
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 2/5, побач гімназія №10, парк, магазіны,ёсць зручная паркоўка. 98 000 рублёў. Т. (8-029) 8726237.*
- Гараж і гаражныя боксы. Т. Вэлком (8-029) 3958593, МТС (8-029) 7748664.*
- Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*
- Гараж у ГБК-4 "Зеніт", насупраць прыпынку вакзала ў Вілейцы, памер 3х6 м, ёсць яма, сцяжка падлогі бетонная. Столь падшытая, дзверы ўцепленыя. Ёсць тэхпашпарт. Т. (8-029) 6585886, (8-029) 5571454.
- Гараж у ГК-3 12 г. Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 6385144.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Дом у Вілейцы, усе камунікацыі. Т. (8-033) 3209338.*
- Дом , трактар Т-40. Т. (8-029) 5640458.

### ЗДАМ

- Пакой маладому спецыялісту ў Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, м-н Зеніт, з заключэннем дагавора. Т. (8-029) 6550799.*

## ПАСЛУГІ

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Мерсэдэс – 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*





- Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*
- Агароджы, дах, навесы, казыркі. ІП Борчан П.І. УНП 692017128. Т. (8-029) 5062372.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Рамонт зварачных інвентараў, зарадных прылад, мікрахвалёвак. Наяўны і безнаяўны разлік. Выезд да кліента. ІП Лукошка А.К. УНП 591811742. Т. (8-029) 3149689, (8-029) 5243001.
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*
- Рамонт ноўтбукаў і камп'ютараў любой складанасці. ПУП "Рункомп" УНП 6902552869. Т. МТС (8-033) 3788997, (8-029) 3788997.*
- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА.** Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*
- Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*
- Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*
- Трактар МТЗ-80, 1988 г.в. Т. Вэлком (8-044) 5539968.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*



















# Як правільна выкінуць навагоднее смецце

Традыцыйна пасля навагодніх застолляў у кожнай кватэры застаюцца горы смецця: ад рэшткаў недаедзеных страў да разбітых ёлачных цацак.

Як пазбавіцца ад непатрэбных рэчаў і пры гэтым нанесці найменшую шкоду навакольнаму асяроддзю?

Спецыялісты Цэнтра экалагічных рашэнняў падказваюць, як правільна сартаваць смецце пасля навагодніх застолляў.

**Інфаграфіка Аляксандры ПАРАХНІ.**

## Уваходзь у новы год з добрай сяброўкай – падпісвайся на "Рэгіянальную газету", і няхай яна стане тваім талісманам удачы!

### Падпісацца можна:

✓ праз сайт "Белпошты".
Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам.

Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".
✓ на пошце,
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:*
*63212 (індывідуальная),*
*632122 (ведамасная падпіска).*

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 50 капеек, на тры месяцы – 10 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 10 рублёў, на 3 месяцы – 30 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

## Час цудаў яшчэ не мінуў, зарабляйце 9 і 10 на планшэт

Дарагія сябры, у новым годзе ў вас яшчэ больш магчымасцяў сабраць бланкі для сваіх выдатных адзнак і прыняць удзел у акцыі.

Вам ёсць 12 год, вучыцеся ў школе ці гімназіі і маеце "9" ці "10" па любым з прадметаў? Чаго ж вы чакаеце, далучайцеся да акцыі "Дзясятачка"!

У акцыі могуць удзельнічаць школьнікі, якім ёсць 12 год, любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў.

Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Вы можаце даслаць адзнакі, заробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Бланкі, на якіх больш за адну адзнаку, не прымаюцца. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Вучні ўсім класам, калі яны былі самыя актыўныя, пойдуць у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за 2017-2018 навучальны год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№1)

1. Імя, прозвішча________________
2. Дата нараджэння ________________
3. Клас
Школа________________
4. Населены пункт________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")________
8. Дата атрымання адзнакі ________________
9. Імя, імя па бацьку ________________
10. Прозвішча настаўніка ________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам________
12. Подпіс настаўніка________________

# 12 самых знакамітых сабак у гісторыі

**2018 год – год Сабакі. Ніхто не будзе спрачацца, што сабака – самы лепшы, самы верны, самы адданы сябар. Пра іх пісалі песні і цэлыя раманы, ім ставяць помнікі і здымаюць кіно, а іх унёсак у сусветную гісторыю цяжка пераацаніць.**




Маладзечанец Уладзімір Лазарэнка разам са сваім гадаванцам Ручаём пароды беларускі ганчак.

Мы таксама вырашылі нагадаць пра самых знакамітых сабак і склаці своеасаблівы каляндар, дзе ў кожным месяцы будзе свой герой.

### Студзень. Белка і Стрэлка

Мы не маглі не пачаць год з сабак, якія вядомыя ва ўсім свеце. Гераічныя Белка і Стрэлка. І хаця яны паляцелі ў космас 19 жніўня 1960 года, але памятаем, што Белка і Стрэлка былі не першымі сабакамі ў космасе. Іх "калега", сабака Лайка, паляцеў у космас у 1957 годзе, і, на вялікі жаль, яго палёт быў у адзін канец. У космасе, абляцеўшы чатыры віткі вакол зямлі, ён памёр ад перагрэву. Затым у космас адправілі Чайку і Лісічку, але і яны гераічна загінулі. Стрэлка палёт перанесла больш спакойна, чым яе напарніца Белка, і, вярнуўшыся на зямлю, нарадзіла яшчэ шчанюкоў. Аднаго з іх **Мікіта Хрушчоў** падарыў жонцы **Джона Кенадзі Жаклін**.

### Люты. Сабакі Паўлава

Яшчэ адзін зімовы месяц прысвецім гераічным сабакам акадэміка лаўрэата Нобелеўскай прэміі **Івана Паўлава**. Яго сабакі сталі настолькі знакамітымі, што выраз "сабака Паўлава" ўспрымаецца як прыказка. Пагадзіцеся, мы ўсе крышку сабакі Паўлава, калі, напрыклад, шарым па сцяне ў пошуках выключальніка, толькі пасля ўспамінаем, што электрык перанёс яго на другую сцяну.

### Сакавік. Хаціка

Яшчэ адзін сусветна вядомы сабака. Сімвал адданасці і вернасці – сабака пароды акіта-іну Хаціка.

Гісторыя гэтага сабакі, без перабольшання, прымусіла плакаць увесь свет. Ён 10 гадоў пасля смерці свайго гаспадара чакаў яго на станцыі, адкуль той кожны дзень ездзіў на працу. На японскай мове Хаціка – значыць, восьмы. Ён быў восьмым шчанюком у вывадку. Гаспадар, прафесар універсітэта, і яго гадаванец былі разам зусім нядоўга. Калі Хаціку было ўсяго 9 месяцаў, прафесар памёр ад інфаркту.

> **Хаціка яшчэ пры жыцці стаў нацыянальным героем. І на адкрыцці помніка самому сабе прысутнічаў.**

Ён памёр, калі яму было 11 гадоў. Здарылася гэта 8 сакавіка 1935 года. А ў 2008 годзе выйшаў фільм "Хаціка. Самы верны сябар" з **Рычардам Гірам** у галоўнай ролі. Паглядзіце, мы ўпэўнены, што плакаць вы будзеце не менш, чым ад савецкага фільма "Белы Бім, Чорнае Вуха".

### Красавік. Белы Бім

Яшчэ адна шчымлівая кінагісторыя пра сабаку. Бясспрэчна, шэдэўр савецкага кіно. І Вячаслаў Ціханаў, і Бім сыгралі сваю ролю бездакорна. Прызнаюся, што я фільм паглядзела яшчэ ў дзяцінстве, і толькі адзін раз, бо не змагла больш перажываць такіх моцных эмоцый, якія не пакідаюць гэты фільм. Абавязкова паглядзіце яго з дзецьмі. Ён лепш за ўсе падручнікі ў свеце вучыць быць чалавекам, не быць раўнадушным, паказвае, што такое спачуванне і што такое подласць. Калі вы не саромеецеся плакаць наўзрыд і вам знаёмыя пачуцці невыноснага жалю, глядзіце гэты фільм.

### Май. Ад Мухтара да сабакі Баскервілей

Ужо зразумела, што самых вядомых сабак падарыў нам кінематограф. Таму мы вырашылі прыгадаць, што сабакі станавілася героямі ваенных фільмаў, "Чатыры танкісты і сабака", напрыклад, фільмаў пра паліцэйскіх, легендарны "Камісар Рэкс" і рускі фільм "Прыгоды Мухтара". Сабака быў галоўным героем камедый: "Бетховен", напрыклад, і дэтэктываў. Жудасны сабака Баскервілей вядомы ўсім. А савецкі фільм "Да мяне, Мухтар!". Памятаеце, якая нялёгкая служба была ў міліцэйскага сабакі Мухтара? А гэта ж выдуманыя прататыпы сапраўдных гераічных сабак.

### Чэрвень. Джульбарс

Адзіны сабака, які меў медаль за "За баявыя заслугі" падчас Другой сусветнай вайны. Легендарны і гераічны сабака, які знайшоў за час сваёй службы больш за 7 тысяч мін і каля 150 снарадаў. Джульбас прысутнічаў пры размініраванні магілы Тараса Шаўчэнкі і Уладзімірскага сабора ў Кіеве. Некаторыя крыніцы пішуць, што Сталін загадаў на парадзе Перамогі несці паранenага Джульбарса на сваім кіцелі.

### Ліпень. Дзіна

Яшчэ адзін гераічны сабака, які "ваяваў" у Беларусі, удзельнічаў у размініраванні Полацка. У аўчаркі Дзіны былі тры ваенныя спецыяльнасці: мінёр, знішчальнік танкаў і дыверсант. Адна з аперацый з яе ўдзелам увайшла ў гісторыю: "Восенню 1943 года паспяхова выкананая баявая задача: сабака выскачыў на рэйкі перад нямецкім воінскім эшалонам, які набліжаўся, Дзіна скінула паклажу з зарадам, зубамі вырвала чаку капсулі-запальніка, затым скацілася з насыпу і памчалася ў лес. Яна была ўжо побач з мінёрамі, калі грымнуў выбух, які падарваў эшалон".

### Жнівень. Шарыкаў

Пакінулі свой след сабакі і ў літаратуры. Ну, хто не ведае Шарыкава з "Сабачага сэрца" Міхаіла Булгакава? Але, калі сабака ператвараецца ў чалавека, нічога добрага з гэтага не выходзіць, таму мы сабак і любім за тое, што яны "прыгажуны! Вельмі магчыма, што бабуля гэтага сабакі зграшыла з вадалазам".

### Верасень. Сабака Радзівілаў

У Беларусі ёсць помнік гераічнаму сабаку, які выратаваў на паляванні свайго гаспадара, князя Радзівіла. Стаіць гэты помнік у Нясвіжы. На паляванні на князя накінуўся мядзведзь, і сабака адцягнуў увагу драпежніка ад свайго гаспадара. Чалавека выратаваў, а сам загінуў. Вось такая трагічная гісторыя.

### Кастрычнік. Беларускі ганчак

Сабака Радзівілаў, напэўна, не быў пароды беларускі ганчак, таму што адраджэннем гэтай пароды заняўся маладзечанец **Уладзімір Лазарэнка** ў 2005 годзе. Уладзімір расказваў, што беларусы здаўна вырашалі спрэчныя пытанні падчас палявання. Таму сабака, у якога будуць беларускія карані і абавязкова беларуская мянушка, павінны быць. І ўсё тут!

### Лістапад. Босік

Дварняка Босік, магчыма, і не дацягвае да звання самага вядомага сабакі ў свеце. Але менавіта Босік са Слуцка стаў героем 2017 года. Відэа, дзе ён спрабуе ўратаваць ката, якога збіла машына, хутка абляцела ўвесь беларускі інтэрнэт. А Босік стаў прыкладам таго, што сабакі верныя не толькі людзям, але і сваім сябрам – катам. А тое, што гавораць людзі "сябруюць як котка з сабакам", даўно няпраўда. Вучыцеся ў Босіка.

### Снежань. Люсі

А закончыць хіт-парад сабак мы б хацелі вядомай песняй, якую гадоў, пэўна, 30 таму выконваў Радзівон Газманаў. Памятаеце песню пра сабаку, якая жыла ў двары і была любіміцай усёй дзетвары? "О-о-о-о, Люсі". З песні мы памятаем, што Люсі ў канцы вярнулася ў двор са шчанюкамі, а вось што адбылося з сабакам з песні Шаінскага, так і невядома. "Пропала собака по кличке Дружок".

У 2018 годзе мы вам жадаем не губляць сваіх гадаванцаў, а вучыцца ў іх адданасці, вернасці і чалавечнасці. І хай усе Хаціकі дачакаюцца свайго гаспадара.

**Наталля ТУР.**

# Каляндар канфесій на 2018 год



## ✡ Іудзейскі каляндар

31 студзеня – Ту бі-Шват, Новы год дрэў
28 лютага – пост Эстэр
1 сакавіка – Пурым, свята выратавання яўрэяў у Персідскім заліве
31 сакавіка - 6 красавіка – Песах, іудзейскі Вялікдзень
12 красавіка – Ём ха-Шоа, Дзень Катастрофы і Гераізму
3 мая – Лаг ба-Омер
20-21 мая – Шавуот, свята даравання Торы
22 ліпеня – Ціша-бэ-Ав, пост 9 Ава. Дзень смутку і жалобы
10-11 верасня – Рош а-Шана, Новы год
12 верасня – пост Гедалі
19-20 верасня – Ём-Кіпур. Дзень пакаяння і малітвы
24-30 верасня – Сукот
1 кастрычніка – Шміні-Ацэрэт
2 кастрычніка – Сімхат-Тора
3-9 снежня – Ханука
Усе яўрэйскія святы пачынаюцца напярэдадні ўвечары

## ☯ Будыйскі каляндар

2 студзеня – Махаянскі Новы год
14 лютага – Рытуал ачышчэння Дугжууба)
15 лютага – Дзень выходу ў Нірвану буды Шак'ямуні (Парынірвана)
16 лютага – Тыбецкі Новы год (Лосар)
16 лютага – Будыйскі Новы год (Сагаалган)
16 лютага – 15 цудаў Буды (Монхам Чхенма)
2 сакавіка – Чотрул Дзючэн
2 сакавіка – Сангхі
31 сакавіка – Дзень нараджэння Бодхісатвы Авалакіташвары
30 красавіка – Тхеравадзінскі Новы год
13 красавіка – Тайскі Новы год (Сонгкран)
22 мая – Дзень нараджэння Буды
29 мая – Дзень нараджэння, прасвятлення і зыходу ў Нірвану Буды (Весак)
28 чэрвеня – Посон
28 чэрвеня – Дзень ачышчэння (Дзамлінг Чызанг)
6 ліпеня – Дзень нараджэння Далай-ламы
16 ліпеня – Кругазварот Майтрэі (Майдары-Хурал)
22 ліпеня – Дзень нараджэння Гуру Рынпочэ (Падмасамбхавы)
28 ліпеня – Васа
28 ліпеня – Дні памяці Архатаў (Найдані-Хурал)
28 ліпеня – Дзень Дхармы (Асала)
26 жніўня – Фестываль галодных духаў
26 жніўня – Дзень памінання памерлых (Уламбана)
26 жніўня – Свята Зуба Буды (Асола Перахара)
24 кастрычніка – Каціна
24 кастрычніка – Паварана
30 кастрычніка – Сыходжанне Буды на Зямлю (Лхабаб Дуйсэн)
17 лістапада – Шэсце сланоў
23 лістапада – Дзень Абаронцаў Вучэння (Балдан Лхамо)
23 лістапада – Лой Кратхонг
23 лістапада – Свята Анапанасаці
2 снежня – Свята тысячы лампад (Зула Хурал)

## † Каталіцкі каляндар

**УРАЧЫСТАСЦІ**
**Неперахадныя Урачыстасці з пастаяннай датай**
1 студзеня – Найсвяцейшай Багародзіцы Панны Марыі
6 студзеня – Аб'яўленне Пана (Тры Каралі)
20 сакавіка – Дзень Святога Юзафа
25 сакавіка – Дабравешчанне Панны Марыі
24 чэрвеня – Нараджэнне Святога Яна Хрысціцеля
29 чэрвеня – Дзень святых апосталаў Пятра і Паўла
15 жніўня – Успенне і Ушэсце Панны Марыі
1 лістапада – Дзень усіх святых
8 снежня – Дзень бязгрэшнага зачацця Панны Марыі
25 снежня – Нараджэнне Пана
**Пераходныя Урачыстасці (кожны год з новай, пераменнай, рухомай датай**
1 красавіка – Вялікдзень
10 мая – Унебаўшэсце Хрыстова (Унебаўшэсце Пана), 40-ы дзень пасля Вялікадня
20 мая – Пяцідзясятніца (Спасланне Духа Святога), 7-я нядзеля пасля Вялікадня
27 мая – Дзень Найсвяцейшай Тройцы (нядзеля, 7-ы дзень па Пяцідзясятніцы)
31 мая – Найсвяцейшае Цела і Кроў Пана (чацвер, 11-ы дзень па Пяцідзясятніцы)
8 чэрвеня – Найсвяцейшага Сэрца Езуса (пятніца, 19-ы дзень па Пяцідзясятніцы)
**СВЯТЫ**
**Неперахадныя святы**
2 лютага – Грамніцы
4 красавіка – Дзень святога Ізідора
30 мая – Дзень святой Жанны д'Арк
31 мая – Наведванне Панная Марыяй Элізаветы
11 чэрвеня – Дзень святога Варнавы
13 чэрвеня – Дзень святога Антонія
6 жніўня – Праабражэнне Гасподняе
8 верасня – Нараджэнне Найсвяцейшай Багародзіцы
14 верасня – Узвышэнне Святога Крыжа
24 снежня – Куцця
28 снежня – Дзень святых нявінных дзяцей Віфлеемскіх
**Пераходныя святы (кожны год з новай, пераменнай, рухомай датай)**
14 лютага – Попелец, пачатак Вялікага посту. Адзначаецца за 45 дзён (1,5 месяца) да Вялікадня. У гэты дзень прапісваецца строгі пост. Адпавядае праваслаўнаму чыстаму панядзелку
25 сакавіка – уваход Гасподні ў Ерусалім (Вербная нядзеля, апошняя нядзеля перад Вялікаднем)
30 снежня – Дзень Святога сямейства, адзначаецца ў наступную нядзелю пасля Нараджэння Хрыстова. Святое сямейства – Панна Марыя з дзіцем Езусам і мужам Іосіфам Абручнікам
**ПАМЯТНЫЯ ДНІ**
**Неперахадныя Памятныя дні з пастаяннай датай**
20 ліпеня – Святыя Іаакім і Ганна, бацькі Найсвяцейшай Панны Марыі
7 кастрычніка – Найсвяцейшая Панна Марыя Разарыя
2 лістапада – Дзень памінання памерлых
21 лістапада – Увядзенне Багародзіцы ў храм
**Пераходныя Памятныя дні**
9 чэрвеня – Непарочнае Сэрца Панны Марыі (субота, 20-ы дзень пасля Пяцідзясятніцы)
**Пасты і посныя дні**
14 лютага – 31 сакавіка – Вялікі пост
2, 9, 16 і 23 снежня – Адвент (ад лаціны – прыход) – назва перыяду посту, прынятая ў асяроддзі хрысціян каталіцкай царквы і некаторых пратэстанцкіх дэнамінацый (напрыклад, у лютэран). Адвент – час чакання, які папярэднічае святу Нараджэння Езуса, падчас якога вернікі рыхтуюцца да свята
Пятніцы года (за некаторымі выключэннямі)
Устрымanne ад ежы перад прыняццем Прычасця – Еўхарыстычны (літургічны) пост

## ☦ Праваслаўны каляндар

**8 красавіка – Светлае Уваскрэсенне Хрыстова. Вялікдзень**
**Дванадзясятыя неперахадныя святы**
7 студзеня – Нараджэнне Хрыстова
19 студзеня – Хрышчэнне Гасподняе
15 лютага – Стрэчанне Гасподняе
7 красавіка – Дабравешчанне Прасвятой Багародзіцы
19 жніўня – Праабражэнне Гасподняе
28 жніўня – Успенне Прасвятой Багародзіцы
21 верасня – Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы
27 верасня – Узвіжанне Крыжа Гасподняга
4 снежня – Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы
**Дванадзясятыя пераходныя святы**
1 красавіка – Уваход Госпада ў Іерусалім
17 мая – Узнясенне Гасподняе
27 мая – Дзень Святой Тройцы
**Вялікія святы**
14 студзеня – Абразанне Гасподняе і памяць свц. Васілія Вялікага
25 чэрвеня – Сабор Беларускіх святых
7 ліпеня – Нараджэнне Іаана Прадцечы
12 ліпеня – Святых апосталаў Пятра і Паўла
11 верасня – Усекнавенне галавы Іаана Прадцечы
14 кастрычніка – Пакроў Прасвятой Багародзіцы
**Царкоўныя мнагадзённыя пасты**
19 лютага - 7 красавіка – Вялікі пост
4 чэрвеня - 11 ліпеня – Пятроў пост
14-27 жніўня – Успенскі пост
28 лістапада 2018 г. - 6 студзеня 2019 г. – пост перад Нараджэннем Хрыстовым
**Царкоўныя аднадзённыя пасты**
Серада і пятніца на працягу ўсяго года, за выключэннем усёедных тыдняў і Каляднага перыяду
18 студзеня – Навячэр'е Богаяўлення
11 верасня – Усекнавенне галавы Іаана Прадцечы
27 верасня – Узвіжанне Крыжа Гасподняга
**Усёедныя дні**
(па серадах і пятніцах посту няма)
7-18 студзеня – Калядны перыяд
28 студзеня - 3 лютага – Мытара і фарысея
12-18 лютага – Сырны (Масленічны)
8-14 красавіка – Велікодны (Светлы)
27 мая – 2 чэрвеня – Троіцкі
**Трапеза ў святы**
Згодна з царкоўным статутам, у святы Нараджэння Хрыстова і Богаяўлення, калі яны прыпадаюць на сераду і пятніцу, посту няма. У Навячэр'е Нараджэння Хрыстова, Навячэр'е Богаяўлення, у святы Узвіжання Крыжа Гасподняга і Усекнавення галавы Іаана Прадчечы дазваляецца ежа з алеем. У святы Стрэчання, Праабражэння Гасподняга, Успення, Нараджэння і Пакрова Прасвятой Багародзіцы, Увядзення Яе ў храм, Нараджэння Іаана Прадцечы, апосталаў Пятра і Паўла, Іаана Багаслова, калі яны прыпадаюць на сераду і пятніцу, а таксама ў перыяд ад Вялікадня да Тройцы ў сераду і пятніцу дазваляецца рыба.
**Дні асаблівага памінання памерлых**
10 лютага – Субота мясапусная
3 сакавіка – Субота 2-га тыдня Вялікага посту
10 сакавіка – Субота 3-га тыдня Вялікага посту
17 сакавіка – Субота 4-га тыдня Вялікага посту
17 красавіка – Радаўніца
9 мая – памінанне загінулых воінаў
26 мая – Субота Троіцкая
3 лістапада – Субота Дзмітрыеўская
**Не праводзіцца вянчанне**
Напярэдадні серады і пятніцы ўсяго года (г.зн. па аўторках і чацвяргах)
Напярэдадні нядзельных дзён (г.зн. па суботах)
Напярэдадні двунадзясятых, храмавых і вялікіх святаў
На працягу пастоў Вялікага, Пятрова, Успенскага і посту перад Нараджэннем Хрыстовым
На працягу Каляднага перыяду (ад 7 да 19 студзеня)
На працягу Сырнага тыдня (Масленіцы), пачынаючы з Нядзелі мясапуснай, і ў Нядзелю сырапусную
На працягу Велікоднага (Светлага) тыдня
У дні і напярэдадні Усекнавення галавы Іаана Прадцечы (11 верасня) і Узвіжання Крыжа Гасподняга (27 верасня)

## ☪ Мусульманскі каляндар

(1439-1440) гг. па Хіджры
1 мая – Ноч ачышчэння (Ляйлят аль-Бараа)
17 мая – пачатак мусульманскага посту Рамадана (Ураза)
9 чэрвеня – Ноч Магутнасці і Прадвызначэння (Ляйлят аль-Кадр)
15 чэрвеня – Свята разгавення – Ураза-Байрам. Заканчэнне мусульманскага посту
21 жніўня – Дзень стаяння на гары Арафат
22 жніўня – Свята ахвярапрынашэння – Курбан-Байрам. Заканчэнне вялікага паломніцтва ў Мекку
11 верасня – пачатак Новага 1440 года па Хіджры
20 верасня – Ашура, дзень памінання прарокаў і пасланнікаў Алаха
7 лістапада – Дзень смерці Прарока Мухамада
20 лістапада – Дзень нараджэння Прарока Мухамада (Маўлід ан-Набі)

ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ – НЕ

# Будзьце самавучкамі, не чакайце, пакуль вас навучыць жыццё



**АВЕН.** Вас з Сабакам аб'ядноўваюць такія рысы, як сумленнасць і ідэалізм. Ваш пазітыўны характар дапамагае яму спраўляцца з трывожнасцю, якая ўласцівая Сабаку, таму агульны настрой года абяцае быць радасным і энергічным. Сабака, у сваю чаргу, падзеліцца пачуццём здаровага сэнсу і добрасумленным, дбайным стаўленнем да спраў: трэба будзе заняцца даволі складанай працай, якая прынясе выдатны вынік і матэрыяльнае ўзнагароджанне. Вам прыйдзецца прымаць рашэнні і дзейнічаць хутка, але ўзважана. Шмат эмоцый выклічуць адносіны з другой палавінкай: пастарайцеся зразумець яе ўчынкі, нават калі часам яны могуць расчараваць. Ва ўсіх ёсць недахопы, але ў выніку вы захаваеце адзін аднаму вернасць.



**ЦЯЛЕЦ.** Вы адкрытыя, шчырыя, таму лёгка ўжываецеся з Сабакам-рэалістам: падзеі года будуць развівацца дынамічна і канструктыўна. Трэба будзе заняцца справамі, у якіх ёсць вялікі практычны сэнс; магчыма, у вашых праектах спатрэбіцца ўдзел юрыстаў. Вы зможаце разабрацца з любымі цяжкасцямі, калі выдаліце з кола зносін людзей, схільных да агрэсіўнай крытыкі. Канчаткова рваць сувязі не трэба – проста не рэагуйце і трымайце іх на здаровай дыстанцыі. Але галоўнае, што вас чакае ў год Сабакі, – гэта яркі раман, дзе з абодвух бакоў выявяцца шчодрыя, самазабыўныя пачуцці. Каханне робіць вас гіперпачуццёвымі: вы вельмі маеце патрэбу ў пяшчоце, іншы партнёр вам проста не падыдзе.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вам з вашым жывым тэмпераментам бывае складана ўжыцца з Сабакам, якому не заўсёды хапае ўпэўненасці ў сабе. Характар гэтага года пераменлівы: перыяды, поўныя энергіі і запалу, могуць змяняцца момантамі, калі захочацца проста пасядзець у цішыні і пасумаваць. У справах магчымыя сітуацыі, калі вы станеце шукаць не эфектыўныя рашэнні, а фармальнае адабрэнне навакольных, або будзеце спяшацца камусьці на дапамогу, забываючы пра ўласныя інтарэсы. Але ўсё ж галоўнае, што вас чакае, – гэта адносіны з каханым чалавекам. Вам не падыходзіць жыццё ў адзіноце – і вы абое гэта цудоўна разумееце. Каб на здароўе не скардзіцца, пазбаўцеся ад шкодных звычак і не бярыце ўсё блізка да галавы.



**РАК.** Пяшчотны, сардэчны Рак і абачлівы Сабака – адна з найбольш гарманічных камбінацый. Новы год будзе напоўнены зносінамі з іншымі людзьмі: вы цярплівыя, уважлівыя, вам выдатна атрымоўваецца разумець навакольных, аднак часам прыйдзецца хаваць уласныя пачуцці. Новыя знаёмствы дапамогуць прасунуцца ў кар'еры, падняцца на новы прафесійны ўзровень. Але галоўнае, што чакае вас у год Сабакі 2018, – гэта сустрэча з чалавекам, якога можна смела назваць "роднаснай душой". Калі вы зможаце справіцца з першымі сумненнямі і праявіць крыху менш скептыцызму, у гэтых адносін можа быць вельмі цікавая будучыня. Зоркі прадракаюць вам духоўны пад'ём. Шмат хто пераасэнсуе сваё жыццё, даруе крыўды і сам папросіць даравання.



**ЛЕЎ.** Сабака гатовы стаць вам – моцным, шчодрым, велікадушным – верным спадарожнікам і памочнікам. У новым годзе вы сустрэнецеся з важнымі людзьмі, да дзелавых парадаў якіх варта ўважліва прыслухоўвацца. На працы могуць узнікнуць некалькі складаных сітуацый; галоўнае ў іх – праявіць абсалютную сумленнасць і не падвесці партнёраў, якія вам давяраюць, нават калі для гэтага спатрэбіцца крыху адступіцца ад сваіх інтарэсаў. Ва ўсім астатнім ісці на кампрамісы не прыйдзецца: год абяцае быць удалым, спакойным і плённым – як у прафесійным, так і ў асабістым плане. Хваробы будуць абыходзіць вас бокам, бо вы вельмі любіце жыццё. І не траціце марна грошы. Будзьце разважлівыя і мудрыя.



**ДЗЕВА.** У новым годзе вам варта засяродзіцца на справах, якія, падобна, занадта актыўна ўрываюцца ў асабістую прастору. Каб узнавіць аптымальны work-life balance (баланс паміж работай і ўласным жыццём), прыйдзецца адстойваць свае межы, пераадольваць прадузятасці, ісці на адкрытае абмеркаванне складаных пытанняў, праяўляць больш цвёрдасці і ўпэўненасці ў сабе. Магчыма, у вашым асяроддзі ёсць людзі, якія зыходзяць не з агульных, а выключна са сваіх карыслівых інтарэсаў. Вам таксама варта сёе-тое перагледзець у адносінах з партнёрам: ён будзе праяўляць больш адказнасці і клопату, калі адчуе, што вы давяраеце яму і не імкняцеся кантраляваць кожны крок.



**ШАЛІ.** Вы падабаецеся навакольным людзям, яны цэняць вашу далікатнасць, сумленнасць, прыемны характар. Аднак у новым годзе будзьце больш уважлівыя да канфліктных сітуацый: магчыма, хтосьці будзе старацца вамі маніпуляваць, выдатна ведаючы, што вы не пераносіце сварак і звычайна гатовыя на ўсё, каб іх пазбегнуць. Ваш дыпламатычны характар дазваляе знайсці выйсце з самых заблытаных сітуацый, аднак паспрабуйце не ахвяраваць сабой, каб заслужыць адабрэнне калег і начальства. Галоўнае, што чакае вас у год Сабакі 2018, – сустрэча з такім жа шчодрым чалавекам, верным партнёрам. Пакуль у асабістым жыцці, падобна, вы аддаяце больш, чым атрымліваеце.



**СКАРПІЁН.** У вас, такога энергічнага, добра развітая інтуіцыя, а ад Сабакі ў новым годзе вы атрымаеце ў падарунак такія якасці, як мэтанакіраванасць і працавітасць. Усё гэта разам павысіць ваш агульны настрой і матывацыю, дадасць смеласці, дазволіць дзейнічаць, рашуча дамагаючыся сваіх мэтаў. На працы магчымыя сітуацыі, калі прыйдзецца адстойваць свае правы. Гэты год прымусіць звярнуць больш увагі на сяброўскія сувязі: пастарайцеся не прапускаць ні адно запрашэнне на дзень нараджэння, тэатральную прэм'еру, выставу ці свецкую вечарынку. На ўласным фронце магчымыя пазітыўныя перамены, калі вы навучыцеся больш адкрыта гаварыць пра свае пачуцці.



**СТРАЛЕЦ.** Вы, справядлівы, добрасумленны, верны сваім ідэалам, і адважны, адданы Сабака – разам гэтыя двое здольныя выратаваць свет! Аднак у новым годзе паспрабуйце не пераацаніць свае сілы, не разгубіць натхненне. Вучыцеся мякчэй ставіцца да кампрамісаў: шматлікія расчараванні атрымаецца пазбегнуць, калі вы зможаце быць менш катэгарычнымі. У працы будзе неабходна надаваць асаблівую ўвагу дэталям; не пускайце на самацёк важныя справы. А ў справах любоўных, наадварот, вы можаце дазволіць больш легкадумнасці: не ўсе раманы ці палкія прызнанні абавязкова трэба ўспрымаць сур'ёзна. Палюбіце сябе, не перагружайце арганізм, дазваляйце сабе час ад часу проста расслабіцца і адпачнуць.



**КАЗЯРОГ.** Вы ўмее быць шчодрымі, адкрытымі з навакольнымі, але Сабака навучыць вас больш цвёрда адстойваць свае інтарэсы. У цэлым год пойдзе вам на карысць, дадаўшы разважлівасці думкам і эфектыўнасці ўчынкам. У працы вамі рухае хутчэй пачуццё абавязку, а не матэрыяльны інтарэс, але на гэты раз вашы намаганні будуць узнагароджаныя і ў фінансавым плане. Паспрабуйце не ўступаць у спрэчкі па другасных пытаннях; найбольшае задавальненне прынясуць не бізнес-праекты, а магчымасць мець зносіны з блізкімі людзьмі, развеселіць сябе аб сусецшць сяброўку. Падобна на тое, у каханні вы крыху асцерагаецеся апынуцца ва ўразлівай пазіцыі і часам хаваеце пачуцці за маскай іроніі або абыякавасці. Для такіх страхаў няма падстаў: ваш каханы ведае і шануе ваша залатое сэрца.



**ВАДАЛЕЙ.** У новым годзе вам не раз прыйдзецца дзейнічаць у непрадбачаных абставінах, хутка адаптавацца да зменлівай сітуацыі. Магчыма, прыйдзецца разблытваць нейкую бюракратычную праблему. Справіцца дапаможа філасофскае стаўленне да нечаканасцяў, прафесійны падыход да новай інфармацыі і крупелька гумару. Вы ўмееце сябраваць з людзьмі, а ў адказ можаце разлічваць на падтрымку і дапамогу. Але галоўнае, што чакае вас у год Сабакі 2018, – гэта новая якасць адносін з самым блізкім чалавекам. Вы маеце патрэбу ў стабільнасці: магчыма, прыйшла пара зрабіць крок і афіцыйна пацвердзіць вашы пачуцці. Пара заняцца і абагачэннем духоўнага боку жыцця. Не ігнаруйце дробязі і прыглядайцеся да лёсавызначальных знакаў.



**РЫБЫ.** Падобна на тое, вашы думкі занятыя раманам, які нечакана пачаўся ў адыходзячым годзе. Закахацца – гэта заўсёды прыемна, аднак на змену першым моцным пачуццям могуць прыйсці пытанні, сумненні, уколы рэўнасці... Увесь гэты нязручны "багаж" нясе з сабой заступнік новага года Сабака – адданы і шчодры на пачуцці, але не заўсёды ўпэўнены ў сабе. Яго моцная якасць – практычнасць, якая можа спатрэбіцца і ў любоўных справах. Займіцеся бягучымі клопатамі ў вашым жыцці, пачынайце новыя праекты, не паддавайцеся ляноце або песімізму і, галоўнае, паспрабуйце не здагадвацца аб тым, як будуць развівацца гэтыя адносіны. Па магчымасці атрымоўвайце задавальненне ад зносін з каханым тут і цяпер, а ўсё астатняе пакіньце вырашаць мудраму Сусвету.

Марыя УРБАНОВІЧ.

# Зацвердзілі герб Ашмянаў, выпусцілі марку памяці Агінскага

## Чым запомніліся гады Сабакі ў Ашмянах, Астраўцы і Смаргоні

АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ, СМАРГОНЬ

**У мінулым нумары мы пісалі пра тое, чым у гісторыі Маладзечна, Мядзела, Вілейкі і Валожына адзначыўся год Сабакі. Цяпер пройдземся па той частцы нашага рэгіёна, што знаходзіцца на Гродзеншчыне.**

### 1946

У Варнянах на Астравеччыне нарадзіўся **Ян Цехановіч** – польскі эсэіст, публіцыст, аўтар шэрагу навуковых прац.

На ашмянскім мясакамбінаце працавала 19 работнікаў, у чым ліку 9 жанчын.

Для Смаргоншчыны год быў багаты на нараджэнне творчых асоб. У Смаргоні нарадзіўся паэт палітык **Уладзімір Някляеў**, а таксама кампазітар, аўтар музыкі да кінафільмаў **Пётр Альхімовіч**. У Несцянятах на свет з'явіўся будучы графік, мастак, скульптар **Уладзімір Церабун**. Па словах Уладзіміра Някляева, з Церабуном яны вучыліся ў адным класе школы №1 і сядзелі за адной партай.

Ад гэтага года і да 1960 Астравецкі, Смаргонскі і Ашмянскі раёны ўваходзілі ў склад Маладзечанскай вобласці.

### 1958

Вёска Астравец атрымала статус гарадскога пасёлка.

У Ашмянскую школу-інтэрнат для дзяцей-сірот набралі першых вучняў. Тады ж пабудавалі новы жылы корпус інтэрната на 210 месцаў, майстэрні і сталовую.

У Смаргонь на раённую партыйную канферэнцыю прыехаў першы сакратар Маладзечанскага абкама партыі **Сяргей Прытыцкі**. Тагачасны дырэктар школы **Уладзімір Клябанаў** распавёў Прытыцкаму пра неабходнасць будаўніцтва новай школы. Старая месцілася ў будынку гарбарнага завода. Пытанне вырашылі станоўча.

У 1958 годзе ў Жупранах устанавілі бюст паэта 19 стагоддзя **Францішка Багушэвіча**, аўтарам якога з'яўляецца скульптар **Заір Азгур**.

На Ашмяншчыне ля вёскі Ягелоўшчына Жупранскага сельсавета ва ўрочышчы Люгоўшчына ўстанавілі помнік яўрэям, забітым нацыстамі падчас Вялікай Айчыннай вайны. Надпіс "Вечная памяць нашым бацькам, братам, мужам, загінулым ад рук фашыстаў", зроблены на беларускай мове і на іўрыце.

### 1970

У Ашмянах нарадзіўся **Андрэй Барбашынскі** – адзін з лідараў гандбольнай каманды СНД, алімпійскі чэмпіён 1990 года.

У Смаргоні зачынілі млын, які працаваў ад 1939 года. Тут былі тры млынары. Збожжа везлі з усяго раёна.

### 1982

Ураджэнцу Астравеччыны, пісьменніку і навукоўцу **Адаму Мальдзісу** прысвоілі званне "Заслужаны дзеяч польскай культуры".

Будынак свірскага касцёла перадалі смаргонскаму заводу пад размяшчэнне заводскага цэха.

### 1994

У Астраўцы адкрылі помнік **Іосіфу Гашкевічу** – першаму расійскаму консулу ў Японіі. Пасля выхаду ў адстаўку ён пасяліўся ў вёсцы Малі. Тут напісаў навуковую кнігу пра японскую мову, якую выдалі пасмяротна.

Футбольная каманда "Смаргонь" прайшла на чэмпіянат вобласці.

Выпусцілі паштовую марку, прысвечаную кампазітару і дыпламату **Міхалу Клеафасу Агінскаму**, што жыў у пачатку 19 стагоддзя ў Залессі на Смаргоншчыне.

Дзякуючы ініцыятыве мясцовых жыхароў і ўладаў у ашмянскім касцёле аднавіліся службы.

Ад 1948 года храм, пабудаваны ў 14 стагоддзі, выкарыстоўвалі па-рознаму: тут быў склад для льновалакна, цэхі Віленскага завода радыёвымяральных прыбораў, вытворчасць пластмасы.

У ашмянскай бібліятэцы стала працаваць батлейка.

### 2006

Пачалі распрацоўваць пытанне пра будаўніцтва першай Беларускай АЭС.



Васільеўне Балкоўскай.

С любовью истинно советской,
Как милосердия сестра,
Главврач больницы Куренецкой
К больным участлива, добра.
Лечить людей — ее призванье.
И потому-то, стало быть,
Хирурга-медика ей званье —
Как имя-отчество носить.
* * *

У абласной газеце "Сцяг Кастрыніка" дзякуюць доктару з Куранца.

Скан Наталлі ТУР.

Прапанавалі чатыры пляцоўкі: Краснапалянскую, Кукшынаўскую, Верхаводзінскую і Астравецкую. Выбралі апошнюю.

Афіцыйна зацвердзілі герб Ашмянаў. Яго распрацавалі на аснове варыянту 1792 года. На гербе злева – рука, што трымае залатыя вагі, справа – шчыт, у цэнтры – чырвонае цяля. Шчыт сімвалізуе абарону, вагі – гандаль і справядлівасць. Цяля – сімвал апошняга польскага караля **Станіслава Аўгуста Панятоўскага**. Гэта пры ім у 1792 годзе Ашмяны ўпершыню атрымалі герб.

Футбалісты Смаргоні прайшлі ў вышэйшую лігу.

Пачалі працу над мемарыялам у Смаргоні, прысвечаным Першай сусветнай вайне. Конкурс на эскізны праект і будаўніцтва мемарыяла выйграў скульптар, прафесар, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, ураджэнец Куранца, што на Вілейшчыне, **Анатоль Арцімовіч**.

У журы быў смаргонец Уладзімір Церабун. Тады Уладзімір Васільевіч распавёў "Рэгіянальнай газеце":

– На наступны ж дзень пасля аб'яўлення вынікаў конкурсу Анатоль Арцімовіч мне патэлефанаваў і прапанаваў далучыцца да стварэння комплексу. Так што над мемарыялам сталі працаваць утрох: Анатоль Арцімовіч, яго сын **Іван**, таксама скульптар, і я.

Ордэнам Французскай Скарыны ўзнагародзілі **Віктара Роўду** – ураджэнца Смаргоні, педагога, харавога дырыжора, народнага артыста.

Нацыянальны банк выпусціў памятную срэбраную манету да 600-годдзя княжны, дачкі княжацкага роду Гальшанскіх, польскай каралевы **Соф'і Гальшанскай**.

Соф'я паклала пачатак каралеўскай дынастыі Ягелонаў. Яе сыны **Уладзіслаў** і **Казімір** былі польскімі каралямі.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

● КАЛЯНДАР

**6 СТУДЗЕНЯ**

**1963.** 55 гадоў назад памёр **Андрэй Александровіч**, беларускі паэт, перакладчык, публіцыст, крытык. Брат Аляксандры (Алесі) Александровіч. Нарадзіўся 22 (9) студзеня 1906 года ў Мінску.

**7 СТУДЗЕНЯ**

**Каляды праваслаўныя.**

**1991.** Памёр Кандрат Крапіва (сапр. Атраховіч), драматург, паэт, мовазнаўца. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

**8 СТУДЗЕНЯ**

**1936.** Нарадзіўся Генадзь Каханоўскі (в. Дамашы, цяпер Маладзечанскі раён), гісторык, краязнаўца, аўтар кніг па гісторыі Беларусі.

**1879.** Нарадзіўся Флягонт Валынец (г. Вілейка), дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху.



**170 гадоў** з дня нараджэння **Якуба Наркевіча-Ёдкі** (1848 – 1905), прыродазнаўца, медыка, стваральніка метэаралагічнай станцыі (стварыў у сваім маёнтку ў 1888 годзе). Доктар медыцыны (1893), прафесар (1900), член-карэспандэнт Рускага геаграфічнага таварыства (1889). Скончыў Мінскую гімназію (1865), працягваў навучанне ў Парыжы, Фларэнцыі, Вене. Вынайшаў спосаб бесправадной перадачы і прыёму электрамагнітных хваляў на адлегласці (першы ў свеце прабобраз радыёпрыёмніка, 1891), але не запатэнтаваў вынаходніцтва. Існуе дакумент, які пацвярджае яго прыярытэт у гэтым вынаходніцтве – пратакол пасяджэння Французскага фізічнага таварыства ў Парыжы (1898). Зрабіў значныя адкрыцці ў галіне метэаралогіі (вымярэнне хуткасці руху аблокаў, вільготнасці глебы і інш.), за што ўзнагароджаны срэбраным медалём Рускага геаграфічнага таварыства. Адкрыў у сваім маёнтку санаторый, распрацаваў метады лячэння нервовых захворванняў электрычным токам, метад электраграфіі для дыягностыкі захворванняў, выкарыстоўваў лячэнне кумысам, лячэнне святлом, гімнастыку, мясцовыя мінеральныя воды.

**12 СТУДЗЕНЯ**

**130 гадоў** з дня нараджэння **Язэпа Каранеўскага** (1888 – 1937), дзяржаўнага дзеяча Беларусі, правадзейнага члена Інстытута беларускай культуры, рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1929 – 1931 гг.)

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Гаспадары прытулку для сабак з Вал

# “Мы проста зрабілі хобі сваёй праца

## Пераможцы конкурсу “Асоба года-2017” распавялі пра сям’ю, дзяцей і сабак

ВАЛОЖЫН

**На ўганараванне пераможцы “Асобы года-2017” крыху спазніліся. Ратавалі аднаго з жыхароў сабачага прытулку – шчанюка з пашкоджаным вокам.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Алена Крэйніс.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Ігар Крэйніс.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Прытулак у Алешчанятах Крэйнісы стварылі на зямлі дзеда Алены.




Галоўны рэдактар “Рэгіянальнай газеты” Аляксандр Манцэвіч віншуе пер

А потым іншы “выхаванец” згрыз паперку з адрасам і тэлефонамі газеты. За адно паснедаў бутэрбродамі, прыгатаванымі для сям’і.

Сёлета пераможцамі традыцыйнага конкурсу “Рэгіянальнай газеты” стала сям’я **Алены** і **Ігара Крэйнісаў** з Валожыншчыны. Рэдакцыя адзначыла іх за арганізацыю прытулку для сабак у вёсцы Алешчаняты. Муж і жонка змаглі знайсці сталае фінансаванне для дзейнасці прытулку, уладкоўваюць гадаванцаў у розныя гарады краіны і за мяжу, а таксама прапануюць паслугі гасцініцы для сабак.

Пра тое, што ўключаныя ў спіс магчымых асоб года, сям’я даведалася ад суседкі і сяброўкі журналісткі **Наталлі Штэйнер**. За прадстаўнікоў Валожыншчыны галасавалі аматары сабак з усяго свету: з Балгарыі, Германіі, Ізраіля, Расіі, Амерыкі, Аўстрыі.

– Заўважылі, што ў вашым спісе з прадстаўнікоў Валожыншчыны ёсць яшчэ **Алесь Белы**, – дзеліцца Алена. – Мы яго добра ведаем, былі ў “Марціновай гусі” на мерапрыемстве, прысвечаным птушкам Беларусі. Алеся лічым дастойным кандыдатам, захапляемся тым, што ён робіць у накірунку гісторыі беларускай кухні.

### Бульдог Жорж стаў іспанскай фотазоркай

Пра сваіх гадаванцаў Алена і Ігар могуць распавядаць доўга. Падзяліліся радасцю, што нядаўна змаглі “прыстроіць” французскага бульдога Жоржа. Сабака, кажа Ігар, быў праблемны. Былыя гаспадары выкарыстоўвалі яго для развядзення пароды. Калі бульдог не змог выконваць сваю “місію”, проста выкінулі яго.

Жорж не ведаў ласкі і адкрытай прасторы. Вялікім дасягненнем для гаспадароў прытулку стала тое, што праз нейкі час ён даўся сябе пагладзіць.

У тым, што ў прытулак трапляюць агрэсіўныя жывёлы, Крэйнісы ніколі не вінавацяць саміх сабак. У такіх паводзінах гадаванца, пераканааныя яны, заўсёды вінаваты гаспадар. Так было ў выпадку з Жоржам.

Мужчына, які адважыўся забраць праблемнага бульдога, назаўтра патэлефанаваў Ігару і кажа: “У мяне ўсе рукі ў крыві”.

– Ты ж не сунь рукі, пакуль не дамовішся з ім, – праінструктаваў новага гаспадара Ігар. – Жорж такі сабака, якому трэба паказаць, што чалавек – гаспадар. Інакш будзе наадварот: кіраваць стане сабака.

Праз нейкі час Крэйнісы даведаліся, што Жорж з новым гаспадаром пасябраваў. Не толькі дае гладзіць сябе, а нават заскоквае на калені.

А яшчэ французскі бульдог з лёгкай рукі прафесійнага фатографа стаў іспанскай фотазоркай. Да бабулі ў суседнюю вёску прыязджае прафесійны фатограф **Мікалай Саевіч**. Ён на валанцёрскіх пачатках здымае сабак з прытулку. Пасля выкладае фотаздымкі на сайт, дзе за невялікія грошы любая фірма можа яго набыць.

Фотаздымак з Жоржам спадабаўся іспанскай фірме, якая вырабляе фоташпалеры. Цяпер французскі бульдог на фоне драўлянага алешчаняцкага плота вялікімі тыражамі па цане 120 еўра разыходзіцца ў іспанскіх крамах.

### Маленькі сабака давёў гаспадыню да нервовага зрыву

Неяк да прытулку невядомыя падкінулі дарослага паляўнічага сабаку. Яго ўзяў мужчына, што займаецца паляваннем, а праз нядоўгі час вярнуў гаспадарам. Сказаў, што ні паляваць не ўмее, ні вартаваць. Толькі есці.

– Ну што ж, будзем уладкоўваць не як паляўнічага і вартаўніка, а як кампаньёна, – смяецца Алена.

Гадаваць з гэтага сабакі паляўнічага, па словах Ігара, няма сэнсу. Гэта шмат укладанняў: і часавых, і фінансавых і маральных.

Увогуле выпадкі, калі сабак вяртаюць назад у прытулак, не такія і рэдкія. Крэйнісы аддаюць сваіх жывёл з падрабязнымі рэкамендацыямі: распавядаюць новаму гаспадару пра характар сабакі, яго звычкі, захворванні, алергію на пэўныя прадукты. І заўсёды кажуць: калі нешта не так, каб не выкідалі жывёлу, а абавязкова везлі назад. Часам ездзяць забіраць самі.

Так было з Карамелькай. Невялічкую дварняку ўзяла з прытулку жанчына з Калодзішчаў, што пад Мінскам. За суткі, па словах Алены, сабачка, што важыць пяць кілаграмаў, забрудзіў шыкоўную мэблю і дываны, падрапаў дарагія дзверы і давёў да нервовага зрыву сваю новую гаспадыню. Жанчына патэлефанавала Крэйнісам са слязьмі і прабачэннямі і папрасіла забраць сабаку.

Цяпер Карамелька зноў жыве ў прытулку. Яе выхаваннем займаецца Ігар, які, па словах жонкі, вельмі добры сабачы псіхолаг, а яшчэ дварняка Пятнашка.

### Сана везлі кантрабандай

Цікавая гісторыя ў сабакі Сана. У Крыме ён прыбіўся да расіян, што там адпачывалі. Людзі пашкадавалі кінуць сабаку і кантрабандай вывезлі яго да сябе ў Санкт-Пецярбург. Думалі, хутка ўладкуюць. Трымаць у сябе не было магчымасці.

Тым часам аказалася, што ў сабакі рак хрыбетніка. Гаспадары зрабілі яму такую дарагую аперацыю, за якую разлічваюцца яшчэ і сёння.

Пасля аперацыі ў сабакі перасталі дзейнічаць задняя ногі. Яму набылі інвалідны вазок. Жывёлу-інваліда прывезлі ў Мінск, а адтуль – у Алешчаняты. У Крэйнісаў Сан жыве 13 месяцаў. Хаця дактары ў Санкт-Пецярбургу давалі яму каля паўгода жыцця. Алешчаняцкія супляменнікі добра прынялі Сана.

– Цікава тое, што сабака сабаку ніколі не ўспрымае як інваліда, – дзеліцца Алена. – Яны не заўважаюць калецтваў супляменнікаў, у адрозненне ад людзей. Паніншаму адносяцца сабакі толькі да шчанюкоў і да старых жывёл. Прыстроіць сабаку інваліда ў Беларусі нерэальна.

Выгляд Сана ў інвалідным вазку расчульвае ўсіх, хто яго ўбачыць, кажуць Крэйнісы. Прыгадалі, як на дзень нараджэння Ігара прыехала знаёмая жанчына і ўсё свята праплакала, шкадуючы сабаку.

Пасля гэтага яна далучылася да валанцёрскай дзейнасці і цяпер дапамагае гаспадарам алешчаняцкага прытулку. Хоць на выгляд жанчына – тыповая сталічная бізнес-вумэн, яна шкадуе ўсіх на свеце. Ёй нават сабаку нельга даць, кажа Ігар, бо раздурыць.

### За мяжой нельга ўзяць бадзяжнага сабаку, бо іх там няма

Доўга з-за няпростага характару і агрэсіўнасці не маглі ўладкаваць Грышу. Але і ён знайшоў свайго гаспадара. Сабаку ўзяў рыбак. Цяпер наш Грыша жыве ў трохпакаёвай кватэры і ездзіць на машыне на рыбалку з новым гаспадаром, распавядаюць усцешаныя Крэйнісы.

Яшчэ адна гадаванка – Лакі з кароткай ад нараджэння лапай – цяпер жыве ў Аўстрыі. У прытулак яе прывезлі з вайсковай часці Валожына, каб стэрылізаваць, а пасля забраць. Аднак Крэйнісы вырашылі пакінуць сабаку ў сябе. І ў хуткім часе дварняку забралі ў Вену. Рэгулярна алешчаняцкіх сабак бяруць у Бостан.

– Што прымушае жыхароў замежжа браць са-

# ...ожыншчыны Алена і Ігар Крэйнісы: ...й”



...раможцаў.



Крэйнісы: “Дзеці павінны кантактаваць з жывёламі”. На фота Арына Крэйніс.

бак з беларускага прытулку? Няўжо нельга гэта зрабіць у сябе? – пытаюся ў нашых пераможцаў.

Аказваецца, нельга. Як распавялі Крэйнісы, праблемы з бадзяжнымі сабакамі за мяжой даўно вырашаны. Сабак на вуліцы там проста няма. А людзі, якія маюць усё, хочуць некаму дапамагчы.

Да таго ж гадаваць дварняку лягчэй, кажа Ігар. Імунітэт у яе лепшы, чым у пародзістых сабак. Таму менш грошай ідзе на лячэнне і ўтрыманне.

Каб прыйсці да рэгуляцыі колькасці жывёл, што апынуліся на вуліцы, за мяжой спатрэбіліся гады. Бадзяжных сабак стэрылізавалі ветэрынары, але не забівалі. Так паступова колькасць бадзяжных жывёл скарачалася.

– У многіх замежных краінах, – распавёў Ігар, – увялі чыпіраванне для хатніх жывёл. Калі сабака ці кот будзе гуляць на вуліцы без гаспадара, адразу высвятляць, каму ён належыць. Калі выпадкі такога бадзяння паўторацца, гаспадар атрымлівае вялікі штраф. Вось таму людзі пяць раз падумаюць, перш чым браць жывёлу.

За мяжой у прытулку ёсць куратары, якія ўладкоўваюць сабак. Гэта людзі адказныя. Звяртаюць увагу нават на тое, каб сям’я, у якую трапіць жывёла, была руска- або беларускамоўная. Гэта для таго, каб у сабакі не было стрэсу. Калі жывёлы вельмі прывязаныя адна да адной, іх таксама не раздзяляюць: аддаюць у адну сям’ю.

## Стэрылізаваць больш танна і гуманна, чым забіваць

Гаспадары прытулку лічаць, што і Беларусі даўно варта пайсці па такім шляху, каб рэгуляваць колькасць бадзяжных сабак. Гэта і больш гуманна і танней, чым выклікаць брыгаду па адлове ў некалькі чалавек. Тым больш, ёсць такія ветэрынары, што могуць стэрылізацыю зрабіць хутка і ў палявых умовах.

Яшчэ госці распавялі, што пры доглядзе сабак кіруюцца тым, што гэтыя жывёлы з дагістарычных часоў прывыклі жыць у зграі. Як зграю яны ўспрымаюць і людзей. І важак для алешчаняцкіх сабак – Ігар, перакананая Алена.

## За аўчарку зарабілі слоік мёду

Часам гаспадары, якія з’язджаюць за мяжу, аддаюць гадаванцаў на тыдзень-два ў Алешчаняты як у гасцініцу і аплачваюць іх знаходжанне. Гэта складае пэўную частку даходаў прытулку.

Пастаянны кліент – карлікавы шпіц Назарык. Гаспадыня шпіца – расіянка. Яна набыла кватэру ў Мінску, але часта ездзіць у Расію да дачкі. На гэты час здае Назарыка ў прытулак. Сабака ўжо добра ведае Крэйнісаў, адразу бяжыць да іх і ўскоквае на рукі. А міма ўласнай гаспадыні можа і міма прабегчы.

У Беларусі Крэйнісы вядомыя. Часта ім тэлефануюць незнаёмыя людзі, кажуць што недзе ля дарогі знайшлі сабаку. Часам прывозяць у прытулак самі, часам просяць прыехаць. І Ігар едзе.

Пасля такога званка ў прытулку з’явілася аўчарка. Нехта кінуў сабаку на дарозе, а людзі патэлефанавалі ў Алешчаняты. Ігар паехаў, доўга ўгаворваў сабаку залезці ў машыну, а той не паддаваўся.

Тады мужчына завёў машыну і ціхенька паехаў. Сабака падняўся і пайшоў ззаду. Так і ішоў да самых Алешчанятаў. Потым аўчарку забраў мужчына, які працуе вартаўніком. Сказаў, што будзе браць гадаванца на працу.

– За гэтага сабаку мы яшчэ і слоік мёду атрымалі, – смяецца Алена. – А аўчарка знайшла і гаспадара, і кватэру, і нават працу.

А здараюцца і сюрпрызы. Тэлефануюць: забярыце сабаку. Ігар прыязджае – а там з ёй яшчэ чатыры шчанюкі. Забіраюць усіх.

## Падаткі плацім, крэдыт не даюць

Вельмі важна, на думку Крэйнісаў, каб сённяшнія дзеці мелі зносіны з жывёламі. Ад прыроды ўсе дзеці жаласлівыя, але сённяшнія камп’ютарныя гульні, дзе ў забітага яшчэ тры жыцці, прытупляюць пачуцці жаласлівасці і спачувальнасці.

– Неяк да нашай дачкі Арыны прыехаў аднакласнік, – прыгадала Алена. – Хлопчык захацеў паглядзець сабак, я правяла яго па вальерах. Ён запомніў мянушкі ўсіх сабак і цяпер у Арыны ўвесь час пытаецца, як справы ў кожнай, ці ўсе здаровыя, каго прыстроілі.

Калі я не навучу сёння сваё дзіця дагледзець ката ці сабаку, хто дагледзіць нас у старасці – па такім прынцыпе жывуць Алена і Ігар.

Гаспадары прытулку працуюць па артыкуле 295 Падатковага кодэкса. Штомесячна плацяць падаткі. А вось крэдыт узяць не могуць. Банкі асабліва не хочуць займацца з імі. Не ўсе разумеюць, што гэта за праца “догляд за жывёламі”. Былі праблемы і калі Ігара спынялі супрацоўнікі ДАІ, і калі Алена брала пуцёўку для дачкі ў лагер.

– Мы, канешне, чараўнікі. Можам зрабіць са злога сабакі добрага, – жартуе Алена. – Толькі вось крэдыт атрымаць гэтым чараўніцтвам сабе не дапаможам.

– Нехта разумны сказаў аднойчы: калі не хочаш працаваць, зрабі працай сваё хобі. Мы з жонкай так і зрабілі. І вельмі задаволеныя.

## У жаніха папрасіла мінскага хлеба і соку

Канешне, амаль увесь час сям’і займаюць сабакі. Але знаходзяцца гадзіны і для іншых захапленняў. Алена любіць чытаць, захапляецца дызайнам інтэр’ера. Ігар адпачывае, калі глядзіць кіно.

Алена любіць родны Валожын:

– Ніколі не кажу, што я з-пад Мінска. Лічу, што Валожын – цудоўны самадастатковы горад. З Валожыншчыны выйшла шмат людзей, пачынаючы ад **Шымона Перэса**. Цяпер у Японіі ёсць перакладчыцкая фірма, якую заснавала дзяўчына з Валожына.

Ігар жа прыехаў на Валожыншчыну да Алены з Берліна.

– Мы пазнаёміліся па інтэрнэце, – пачынае прыгадваць гісторыю знаёмства з мужам Алена. – Я часта ездзіла за мяжу, вазіла развіццёвыя цацкі для сына. Так аднойчы ў нас з’явіўся камп’ютар. Да інтэрнэта на той час, у пачатку 2000-х, былі падключаныя ў Валожыне толькі тры абаненты. Сярод іх – я. На сайце знаёмстваў убачыла аб’яву Ігара. Звярнула ўвагу на імя: калі бацькі чакалі майго нараджэння, планавалі, што народзіцца хлопчык Ігар. Як аказалася потым, са скрыні Ігара пісаў яго сябар, у іх былі аднолькавыя імёны.

Алена напісала. Ігар, не разабраўшыся, што ліст не яму, а сябру, адказаў. Пачалося “каханне ў лістах”. І аднойчы Ігар прыехаў у Валожын. Толькі вось сустрэцца з Аленай не атрымалася. Яна на той час дапамагала сястры ў іншым горадзе. Мужчына вярнуўся ў Берлін.

Праз пару месяцаў паездка была больш удалай.

– Ён патэлефанаваў мне ўжо з Мінска, спытаў, што трэба купіць. А я ад разгубленасці папрасіла мінскага духмянага хлеба і соку. Спякла пірог і стала чакаць. Чакаю-чакаю, а яго няма. Ну вось, думаю: збярэшся раз у жыцці замуж выйсці, а жаніх усё не едзе. Нарэшце пачула званок у дзверы. І вось ён стаіць: у адной руцэ хлеб, у другой – сок. Кажу “заходзь”. Ігар зайшоў, агледзеў кватэру, дзе быў няскончаны рамонт, сказаў “о, ды тут працы столькі”, закасаў рукавы і… застаўся назаўсёды.

Па словах Алены, прапанову зрабіў у першы ж вечар.

– А я кажу: “Ведаеш, у мяне сваячка ў ЗАГСе працуе. Я заўтра сапраўды зацягну цябе і ажаню…”

Пажаніліся праз месяц пасля прыезду Ігара. Праз год нарадзілася дачка **Арына**.

## 17-гадовы сын паехаў у Польшчу з 90 далярамі ў кішэні

У Крэйнісаў двое дзяцей. Старэйшы Нікадзім вучыцца ў Польшчы на лагіста. Ужо мае дыплом бакалаўра, хутка скончыць магістратуру. Хлопец, які ў 17-гадовым узросце паехаў у Польшчу з 90 далярамі ў кішэні, аб’ездзіў Еўропу, даскалана ведае пяць замежных моў, атрымаў два гранты:

– А ўсё тыя развіццёвыя цацкі і канструктары, што вазіла яму змалку, – прыгадвае шчаслівая матуля.

Арына вучыцца ў валожынскай гімназіі, шмат чытае. Аднолькава захапляецца гісторыяй і хіміяй. Некалі ў 10-гадовым узросце, калі была з татам у Польшчы, змагла спыніць цягнік, бо Ігар, які пабег за білетамі, не паспяваў. Проста закрычала на польскай мове: “Спыніце цягнік, вунь бяжыць мой тата!”. Дзяўчынку паслухаліся. Цягнік спынілі.

Старэйшы сын Ігара, **Павел**, – чэмпіён свету па паўэрліфтынгу, сілавым трохбор’і.

Крэйнісы стараюцца ніколі нічога не забараняць дзецям:

– Мы не кажам не гладзь сабаку. Кажам: гладзь асцярожна, можа ўкусіць.

Быў час, калі мама і тата працавалі на пяць рэпетытараў. У гэтай сям’і ўпэўненыя: грошы, укладзеныя ў адукацыю дзіцяці, абавязкова даюць вынік.




Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

## У Швецыі цябе паважаюць, любяць шахматы і плацяць 20 еўра за гадзіну

**Дваццаць пяць гадоў таму, калі Уладзімір Палей перабраўся ў Швецыю і стаў выкладаць шахматы шведам у маштабе ўсенавуча, я не разумеў яго і яго гісторыі.**

Цяпер разумею, што адна справа навучыць настроеных на навучанне разумненькіх маленькіх хлопчыкаў з яўрэйскімі каранямі, іншая справа навучыць усіх у класе. І разумненькіх, і не вельмі. А потым праводзіць спаборніцтвы паміж класамі, бачыць, як тыя ж разумненькія самі вучаць і падцягваюць слабейшых. Тут цікавая яшчэ і магчымасць згуртаваць клас з дапамогай шахматаў.

Мінула 25 гадоў, а мы так і не змаглі выставіць ні адну каманду – ні цэлы клас для матча са шведамі. А прапанова Уладзіміра Палея застаецца ў сіле – калі будзе цалкам гатовы і навучаны шахматны клас з 25 дзяцей, даць бой шведам – Швецыя, Стакгольм і Уладзімір Палей чакаюць! Прынцыпова тут не адабраныя 25 чалавек з розных школ, а менавіта – 25 дзяцей з аднаго класа.

Шведскія класы Уладзіміра Палея – шматразовыя пераможцы Стакгольма, Швецыі і свету. Яны часта выязджаюць цэлымі класамі на спаборніцтвы ў Францыю, Італію, Нарвегію, Фінляндыю і іншыя краіны.

Яшчэ тады, даўнымдаўно, пытаўся ва Уладзіміра, чаму ён з'ехаў? Адказваў – таму што тут, у Швецыі, цябе паважаюць, любяць шахматы... і плацяць 20 еўра за гадзіну. Уладзімір выдатна валодае англійскай, шведскай. Падазраю, што някепска ведае нямецкую, французскую і шахматную мовы...

А цяпер пагаворым пра шахматнае майстэрства. Шахматы – гэта бачанне малюнкамі. Малюнкі і дыяграмы пастаянна, з кожным ходам, змяняюцца. Добры шахматыст у розуме аперуе гэтымі дыяграмамі. Прычым заўважае найменшыя змены ў якасці і колькасці фігур на дошцы.

На прадстаўленай дыяграме белыя ставяць мат у тры хады. Добры шахматыст бачыць рашэнне задачы з ходу.

Патрэніруйце і вы свае магчымасці.



У гэтай задачы белыя могуць паставіць мат і ў 2, і ў 3, і ў 4 хады, у залежнасці ад абароны чорных. Самы доўгі шлях – чатыры хады. Пытанне ўважлівым чытачам – у колькі ходаў белыя паставяць мат пры лепшай абароне чорных? Дасылайце адказы на region-news@rh.by, і атрымлівайце падарунак – кнігу "Мат за адзін ход" Віталя Качаткова.

Усім удачы, здароўя, шчасця і кахання ў новым годзе!



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

# ФК "Смаргонь": новы сезон з новым трэнерам

СМАРГОНЬ

**Сезон 2018 года ФК "Смаргонь" будзе гуляць пад кіраўніцтвам новага галоўнага трэнера. Пасаду галоўнакамандуючага чырвона-чорных зойме Мікалай Гергель. Аляксей Дварэцкі, які кіраваў смаргонскай камандай на працягу гэтага года, сёлета зойме пасаду начальніка каманды і старшага трэнера.**



Мікалай Гергель, новы галоўны трэнер ФК "Смаргонь".

Мікалаю Гергелю 57 гадоў. У 1991-м ён гуляў за маладзечанскі "Металург", а затым два гады абараняў колеры смаргонскага "Будаўніка". Пазней працягнуў кар'еру ва Украіне. З 2012 года працуе ў Беларусі. Апошнія тры гады займаў пасаду старшага трэнера ў ФК "Граніт", а да гэтага працаваў з юнакамі 1999 года нараджэння ў сталічным клубе "Зорка-БДУ".

Па словах Мікалая Гергеля, пачатак падрыхтоўчага перыяду для "Смаргоні" запланаваны на 5 лютага.

– Першае, над чым трэба цяпер працаваць, – гэта ўкамплектаванне складу на сезон, – распавядае суразмоўца. – Я знаходжуся ў Смаргоні ўжо некалькі дзён. За гэты час тэлефанаваў некаторым хлопцам, прозвішчы пакуль называць не будзем, з многімі ёсць ужо папярэдняя дамоўленасць.

Мікалай Гергель адзначыў, што тыя футбалісты, якія гулялі ў смаргонскай камандзе ў мінулым сезоне, могуць быць карысныя і сёлета. Упор будзе рабіцца на тых маладых хлопцаў, якія ёсць у Смаргоні і ў раёне.

– Улічваючы тое становішча, у якім каманда апынулася пасля гэтага сезона, будзем старацца падымаць рэпутацыю клуба, – тлумачыць галоўнакамандуючы. – Трэба будзе шмат працы, каб мы змаглі змяніць сітуацыю ў лепшы бок. Для мяне, як чалавека, які пачынаў тут працаваць, гэта з'яўляецца нават своеасаблівым стымулам.

> Усе кажуць, што ў адну раку двойчы не ўвойдзеш, дык вось я паспрабую ўвайсці двойчы.

Мая задача – зрабіць так, каб смаргонскім заўзятарам не было сорамна прыйсці на стадыён і пахварэць за сваю каманду, – падсумаваў Мікалай Гергель.

Варта дадаць, што пасля заканчэння сезона з 11 гульцамі ФК "Смаргонь" скасаваныя працоўныя адносіны. Так склад чырвона-чорных пакінулі: **Аляксандр Пузевіч, Уладзімір Казко, Ягор Мацвееў, Аляксандр Ануфрыеў, Кірыл Ганчарук, Сяргей Мельнік і Сямён Смунёў.**

**Уладзіслаў Хвін** (брэсцкае "Дынама"), **Уладзіслаў Шэрман** ("Гарадзея"), **Андрэй Карбоўскі** ("Гарадзея") і **Дзмітры Быкаў** ("Нафтан"), арандаваныя камандай да канца сезона, перайшлі ў свае клубы.

**Аддзел інфармацыі.**

## Астравецкія школьнікі сталі пераможцамі рэспубліканскага спаборніцтва

АСТРАВЕЦ

Другакласнікі **Эмілія Мальдзіс** і **Дзмітры Вялікі** з Гудагайскай і Альхоўскай сярэдніх школ дапамаглі камандзе Гродзенскай вобласці заняць першае месца ў фінале спартыўна-масавага рэспубліканскага праекта "300 талентаў для каралевы".

Вучні другіх-чацвертых класаў з усёй краіны сабраліся ў Мінскім лёгкаатлетычным манежы, каб прадэманстраваць свае спартыўныя здольнасці. Хлопцы спаборнічалі ў чатырох відах: бар'ерны бег, эстафета 8х50 метраў, кіданне мяча на каленях з-за галавы і скачкі на скакалцы.

Астравецкія ўдзельнікі Эмілія Мальдзіс (настаўнік фізкультуры – **Уладзімір Леанідавіч Батура**) і Дзмітры Вялікі (настаўніца – **Валянціна Казіміраўна Яновіч**) паспяхова выступілі ў гэтым мнагабор'і і такім чынам дапамаглі камандзе Гродзенскай вобласці заняць першае месца.

Узнагароджанне пераможцаў і прызёраў праводзілі алімпійскія чэмпіёны і прызёры чэмпіянатаў свету і Еўропы па лёгкай атлетыцы.

Акрамя спаборніцтваў удзельнікаў чакала яркае лёгкаатлетычнае свята! Кожны ўдзельнік атрымаў падарункі і незабыўныя ўражанні! Для юных спартсменаў былі прапанаваныя сучасныя спартыўныя пляцоўкі, уздымалі настрой артысты, смяшылі ростовые лялькі і здзіўлялі канадскія хаскі. Канфеці, 2000 рознакаляровых шароў, паравоз з пераднавагоднімі падарункамі на сапраўдных поні, Снягуркі і сапраўдная Каралева спорту – лёгкая атлетыка – усё гэта выклікала захапленне і пакінула незабыўныя эмоцыі.

**Аддзел інфармацыі.**




Удзельнікі рэспубліканскага праекта "300 талентаў для каралевы" Дзмітры Вялікі і Эмілія Мальдзіс.

# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Паводле афарызму, беднасць – унучка багацця. Назавіце сваячніцу абедзвюх.
2. У час Рэфармацыі Мікалай Радзівіл Чорны звярнуўся менавіта ў гэту рэлігію.
4. Большасць з іх памірае, так і не дачакаўшыся жаданай метамарфозы. Іх важнасць асэнсавалі ў 18 стагоддзі з узмацненнем палітычнага ўплыву народа.
5. Паводле Канта, з яе пачынаюцца любыя веды чалавека. Кажуць, што яна падводзіць толькі тых, у каго ёсць.
8. На здымках фільма “Жанчына, якая спявае” для Алы Пугачовай стварылі гэта, што пасля стала неад’емнай часткай іміджу спявачкі.
9. Самая доўгая паралель.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

3. Назва гэтага населенага пункта рэгіёна паходзіць ад умацаванага вострава на правым беразе Лошы.
6. Карлікавая дзяржава на каралавым востраве ў Ціхім акіяне, якая не мае сталіцы.
7. Зубасты сталовы прыбор.
10. Гэтае рэчыва – асноўны кампанент кіслотных дажджоў, у газавай форме можа выклікаць моцныя апёкі. Калі трапляе ў страўнік, можа выклікаць павышанае потааддзяленне, а ў выпадку вялікай дозы – рвоту.
11. Краіна, на шчыце герба якой выява льва з мячом, а пад шчытом каралеўскі дэвіз “Я выстаю”, гімн “Вілхельмус”.
12. Старажытны акіян, што існаваў у эпоху Мезазоя паміж кантынентамі Гандвана і Лаўразія.

## Адказы на крыжаванку з №52.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 2. Грошы. 3. Гектар. 6. Чужак. 7. Фея. 9. Мядзянка. 10. Тлушч. 14. Ачаг. 16. Вячоркі. 17. Янус. 20. Варняны. 22. Вінаград. 24. Крэва. 25. Фацэт. 26. Нерыс. 30. Кабан. 35. Ашмяны. 36. Карчма. 39. Тэмбр. 41. Мары. 42. Зніч. 43. Лоск. 44. Віцень. 45. Паважуся. 47. Канфуцый. 48. Фурыя. 49. Мафусаіл. 50. Царя. 51. Ашукаць. 52. Пакуты. 53. Расамаха. 56. Лукішкі. 58. Ахвяра. 62. Жыжаль. 65. Ханука. 67. Сумна. 69. Мястэчка. 71. Халяль. 72. Мілавіца. 75. Чарапаха.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Атрыбут. 4. Юстыцыя. 5. Тыраж. 7. Факел. 8. Біблія. 11. Сняжынкай. 12. Мічыган. 13. Трыумф. 15. Феномен. 18. Месяц. 19. Фактура. 21. Сура. 23. Філіп. 27. Архідэя. 28. Порахам. 29. Арэшнік. 31. Асёл. 32. Ацтэкі. 33. Тэрмас. 34. Цэзар. 37. Каліва. 38. Папараць. 40. Гандвана. 46. Цярэшка. 51. Атлас. 53. Румынія. 54. Мядзел. 55. Сухум. 57. Ачко. 58. Афіша. 59. Артыкул. 60. Кажух. 61. Вірус. 63. Кельты. 64. Чары. 66. Асечка. 68. Каманда. 69. Міхалкоў. 70. Кіт. 73. Казімір. 74. Цела.

## ● ГАРАСКОП 5-11 СТУДЗЕНЯ

**АВЕН.** Спрыяльная дамашняя абстаноўка, умацаванне сямейнага ачага, а для адзінокіх – магчымасць абзавесціся спадарожнікам жыцця.

**ЦЯЛЕЦ.** Нічога незвычайнага не адбудзецца, тым больш, што вы прывыклі шмат працаваць і вам гэта не ў навіну і не цяжка. Але ў вас з’явіцца жаданне паглядзець на ўсё пад іншым вуглом. А змяніўшы сваю жыццёвую пазіцыю, перагледзеўшы свае погляды на шмат якія факты, акружэнне і прараробленую работу, з’яўляецца жаданне змяніць і сваё жыццё.

**БЛІЗНЯТЫ.** У гэты перыяд лёгка сарвацца, заблытацца ў выбары і пачаць рабіць неразумныя крокі. Эмоцыі будуць перапаўняць, у вашых сілах зрабіць так, каб гэтыя эмоцыі былі станоўчыя.

**РАК.** Вы – цудоўныя выканаўцы, працаголікі; больш адданага чалавека, чым Рак, прырода яшчэ не прыдумала. Вам заўсёды трэба ісці адной дарогай: няхай гэта будзе “патаемная сцяжынка” – але свая, уласная. Як толькі Рак аказваецца на “развілцы дарог” – ён губляецца. Выхоўвайце сілу волі, умацоўвайце сілу духу.

**ЛЕЎ.** Вы не толькі ўнесяце перамены ў сваю паўсядзённасць, але яшчэ і будзеце адчуваць сябе максімальна радасна і камфортна.

**ДЗЕВА.** Не паддавайцеся спакусам, своечасова адыходзьце ў бок і пераключайце ўвагу на штонебудзь іншае. Дыпламатычнасць і абаянне дазволяць вам пераадолець любыя перашкоды.

**ШАЛІ.** Нарэшце вас чакае спакойны перыяд, які не абяцае рэзкіх перамен. Калі не разлічваеце на ўласныя сілы, у вас жа ёсць сябры, сваякі. Яны з радасцю пададуць вам руку дапамогі.

**СКАРПІЁН.** Ваш добры настрой станоўча паўплывае на работу і ўсе справы. Вы, акрамя маральнага задавальнення, атрымаеце яшчэ і прыбытак. З’явіцца чалавек, які так даўно чакаў з вамі сустрэчы. Пагаджайцеся, новае знаёмства прынясе толькі радасць.

**СТРАЛЕЦ.** Цяпер вам не трэба ставіць ніякіх грандыёзных задач, не трэба нічога даказваць – ні сабе, ні іншым. Вазьміце часовую перадышку, расслабцеся і адпачывайце. Зоркі рыхтуюць вам паляпшэнне матэрыяльнага стану.

**КАЗЯРОГ.** Вам проста неабходна як мага больш адпачываць. Схадзіце ў кіно, тэатр, пахадзіце па крамах – гэтыя паходы ўразяць. Калі вам здаецца, што вы моцна стаміліся ад адносін, то не варта рабіць з мухі слана. Жыццё з іншым чалавекам складаецца не толькі з радасці. Галоўнае, захаваць каханне.

**ВАДАЛЕЙ.** Старайцеся стрымліваць сваё жаданне кагосьці крытыкаваць і шукаць “уласную” праўду, бо гэта псуе жыццё іншым людзям, сабе і нават вашым дзецям. Цяпер расстаноўка нябесных сіл складваецца найлепшым чынам. Дзейнічайце – і вам усміхнецца фартуна.

**РЫБЫ.** Вы будзеце замкнутыя і не знойдзеце часу і жадання, каб убачыцца з блізкімі, роднымі, сябрамі. У вас не будзе жадання і сіл нават на тое, каб проста радавацца жыццю. Успрыманне знешняга свету будзе адбывацца з негатыўнага боку, незалежна ад таго, што там адбываецца на самой справе. Ведайце: усё, пра што вы думаеце, далёкае ад рэальнасці.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | 6 | 7 | | | |
| | 4 | 5 | | | | | 8 | |
| | | | | | | | | |
| | 3 | | | | | 6 | | 7 |
| | | | | | | | | 1 |
| | | | 8 | | 4 | | | |
| | | | | 9 | | | | |
| 7 | | 4 | | | | | | |
| | | | 3 | | | | 5 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

ПРЭМ’ЕРА. “**Тайна вострава людаедаў”** (пірацкі трылер у адной дзеі) 8+, *Дамір Салімзянаў*
14 студзеня – у 11:00

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

“**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**” (камедыя ў 2-х дзеях) 16+, *Сцяпан Лабазёраў*
5 студзеня – у 19:00

“**Вакзал на траіх**” (трагікамедыя ў 2-х частках) 16+, *Ігар Балабко*
12 студзеня – у 19:00

“**Нязваны госць**” (сур’ёзная камедыя) 16+, *Святлана Бартохава*
17 студзеня – у 19:00

“**Шукаю сапраўднага мужчыну**” (камедыя ў 2-х дзеях) 16+, *Алена Папова*
21 студзеня – у 17:00

“**Прыгажуні**” (амерыканская камедыя” 16+
26 студзеня – у 19:00

“**№13**” (камедыя ў 2-х дзеях) 16+, *Рэй Куні*
28 студзеня – у 17:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***
Кантактныя тэлефоны:
**74-63-86** – наместнік дырэктара, **74-63-88** – галоўны адміністратар, **74-63-85** – каса.
E-mail:
modt@tut.by, www.theatre-modt.by

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**

**Чароўнае навагодняе прадстаўленне “КАЗАЧНЫ СНЕГАПАД”**
5 студзеня 2018 г.
У праграме: казачны спектакль “**Пані Мяцеліца**” *братоў Грым*;
сустрэча з Дзедам Марозам, Снягуркай, казачнымі героямі;
вясёлыя карагоды, гульні, танцы, вершы, падарункі.

“**Меч анёла**” (батлеечныя варыяцыі), І.Сідарук (бел.)
14 студзеня – у 12:00

“**Шчаўкунчык**” (калядная казка), Э.Т.А.Гофман (рус.)
21 студзеня – у 12:00

“**Залатая табакерка**” (казка-жарт), А.Плютава
28 студзеня – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
**Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.**
Тэл. (8-0176) **74-62-19**, **50-56-96**. УНП 600136804

ISSN 1991–7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

## ● НАДВОР'Е

### 6 студзеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +3 / +2 | | +4 / +6 | | +2 / +6 | | 0 / 0 | |
| | 729 | ↑ 6 | 734 | ↗ 6 | 737 | ↗ 5 | 747 | → 5 |
| Вільня | +4 / +1 | | +3 / +3 | | 0 / -1 | | -3 / -2 | |
| | 731 | ↑ 7 | 740 | → 5 | 748 | ↗ 5 | 752 | ↘ 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 9.31
Захад 17.06
Даўжыня дня 7.35

Усход 23.04
Захад 12.02
Квадра 3




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература -29,6 °C у 2003 годзе
Максімальная тэмпература +6,6 °C у 1999 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,7 мм у 1988 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Калі нехта забруджвае прастору вакол вас, як з гэтым змагацца? І хто павінны гэта рабіць? На "круглым стале" "Рэгіянальнай газеты" мы збіраем экспертаў і неабыякавых жыхароў рэгіёна, якія змагаюцца за свае экалагічныя правы. Вынік размовы чытайце ў наступным нумары.**

## ● МОЙ ГАДАВАНЕЦ



Фота забяспечана Марыяй РАГІНЕЙ.

**У сям'і Марыі Рагіні з Вілейкі сабаку пароды чаў-чаў называюць Стывен, Сцёпка або Мішка. На здымку – Паліна са сваім гадаванцам.**

## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

З сённяшнімі цэнамі разумееш, што некаторыя сябры не такія ўжо і блізкія, каб набіць ім падарункі на Новы год.

***

Новы год – гэта такі час, калі званку ў тры гадзіны ночы радуешся больш, чым званку ў дзесяць раніцы.

***

Аддам ката ў добрыя рукі. А калі рукі вельмі добрыя, то і мяне забірайце.

***

Дзяўчаты! Знайшла шыкоўную дыету. Можна есці хоць 20 разоў на дзень. Кефір. Відэльцам.

***

– А ты чым займаешся?
– Я ландшафтны дызайнер.
– А што гэта значыць?
– На бульдозеры працую.

***

Чэмпіёна па зборцы кубіка Рубіка выпадкова пакінулі аднаго за навагоднім сталом. Ён за дзесяць хвілін сабраў з салаты "Аліўе" палку доктарскай кілбасы, пяць бульбін, тры морквы, пяць яек, чатыры агуркі, паўбляшанкі зялёнага гарошку і пакет маянэзу.

***

– Каханы, мне здаецца, што ў карбюратар вада трапіла.
– Якая ты разумная стала. Хоць ведаеш, дзе карбюратар знаходзіцца?
– У машыне.
– А машына дзе?
– У рэчцы.

***

– А давайце піць чай, – прапанавалі гаспадары.
– Не. Давайце піць тое, што пілі, – пачалі ўзрушацца госці.

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Як прайшла ваша навагодняя ноч?



**Вольга Шляпо, намеснік дырэктара Палаца культуры ў Вілейцы:**
– Я перажыла такія ж кашачныя адчуванні, як у дзяцінстве: радавалася ўсяму. Пасля бою курантаў ужо традыцыйны восьмы раз я адправілася на працу ў Палац культуры, дзе мы з калегамі арганізоўваем святочны канцэрт і дыскатэку. Я ўжо прывыкла да таго, што навагоднюю ноч праводжу на працы.



**Алесь Капуцкі, праваабаронца, Маладзечна:**
– Навагодняя ноч прайшла за сталом, а потым – у люлю.



**Анастасія Хаванская, памочнік выхавальніка, Вілейка:**
– 31 снежня гатавалі, прыбіраліся. Без папяроджання прыехалі блізкія, атрымалася такая навагодняя нечаканасць. Пасля 12 ночы сустрэлася з сябрамі. Як бачыце, усё па звычайнай схеме: спачатку – бацькі, потым – сябры.



**Кастусь Цыбульскі, паэт-песеннік, Мінск:**
– Ноч прайшла па-старыкоўску, але з маладым імпэтам. Дзеці паехалі да сяброў, а мы з жонкай Надзеяй накрылі стол. Адкаркавалі каньяк, выпілі за стары год, які быў плённым для мяне на творчасць. Самай "цёплай стравай" былі ўспаміны і званкі родных.



**Анастасія Чарняўская, гаспадыня, Маладзечна:**
– Здзейсніла даўнюю мару: на Новы год паехала ў Адэсу да сяброў. Летам шмат разоў была, а вось зімой – упершыню. Хаця нічога незвычайнага – проста восень з гірляндамі. Зрэшты, амаль як і ў нас сёлета.



**Надзея Аўдзей, дырэктар музея, Вілейка:**
– Па традыцыі Новы год я заўжды сустракаю з сям'ёй і сваімі сябрамі. А яшчэ разам з намі сустракаў гэты год жывы сімвал – мой сабака Арпа. У нас ёсць свае рытуалы, з якіх пачынаецца год. Адзін з самых галоўных – гэта пад бой курантаў загадаць самае-самае важнае жаданне і толькі адно, якое збудзецца.



**Міхаіл Кулеш, фотамастак:**
– Нічога цікавага не адбывалася. Ляжаў хворы дома і глядзеў тэлевізар.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№1 (1184) 5.01.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 15. Падпісана ў друк у 9.00 4.01.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.